ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№3**
**(2561)**

**22 студзеня 1998 г.**
**Выдаецца з 1955 г.**
**Цана 1 500 рублёў.**

*ПОСТАЦІ*



# НЯЗЛОМНЫ ДУХ ГЕОРГІЯ ГАРАНСКАГА

Члену-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, арганізатару і першаму дырэктару двух яе буйных інстытутаў — Інстытута машыназнаўства і аўтаматызацыі і Інстытута тэхнічнай кібернетыкі, зараз галоўнаму навуковаму супрацоўніку апошняга, доктару тэхнічных навук, прафесару Георгію Гаранскаму 8 студзеня 1998 года споўнілася 85 гадоў.

З пражытых 85-ці 70 гадоў прыпадаюць на працу, службу ў арміі і непасрэдны ўдзел у войнах. З ільготным залікам удзелу ў савецка-фінляндскай і Айчыннай войнах (згодна з існуючым заканадаўствам адзін год вайны прыраўноўваецца да трох працоўных) працоўны стаж Георгія Канстанцінавіча складзе тых жа 85 гадоў, як з дня нараджэння!

Георгій Канстанцінавіч — неардынарная асоба. Рабочы. Інжынер. Педагог. Вучоны. Арганізатар навуковых і канструктарска-тэхналагічных калектываў. Аўтар 9 навуковых манаграфій, некалькіх вучэбных дапаможнікаў і даведнікаў па станках і тэхналогіі апрацоўкі, больш 20 брашур, звыш 200 артыкулаў у навуковых, энцыклапедычных і грамадска-палітычных выданнях, у тым ліку некалькіх вынаходстваў і дзяржстандартаў. Стваральнік новага навуковага напрамку. Заснавальнік і першы галоўны рэдактар усесаюзнага навукова-тэхнічнага зборніка "Вылічальная тэхніка ў машынабудаванні", які выдаваўся больш 20-ці гадоў. Член рэдакцыйнай калегіі першай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ў 12 тамах, яе актыўны аўтар і дарадчык. Член рэдкалегіі і аўтар грунтоўнага 3-томнага выдання "Прагрэс кібернетыкі", якое выпушчана міжнародным кніжным выдавецтвам "Гардон і Брыдж" у Лондане. Настаўнік тысяч выпускнікоў Беларускага політэхнічнага інстытута ў 1939—1956 гадах, дзе ён працаваў асістэнтам, дацэнтам, загадчыкам кафедры, дэканам і намеснікам дырэктара. Кіраўнік некалькіх дзесяткаў аспірантаў. Сярод яго вучняў 5 дактароў і 37 кандыдатаў навук — уласная навуковая інтэрнацыянальная школа, у якой прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Узбекістана, Венгрыі, Літвы, Эстоніі.

Жыццё Георгія Гаранскага такое багатае на падзеі, змястоўнае і цікавае, што не патрабуе ніякіх прыкрас, міфаў, і таму аўтар стараецца не адступаць ад праўды, быць дакладным, хоць гэта, магчыма, і выглядае сухавата.

Адразу прызнаюся: я не ведаў па-сапраўднаму да апошняй пары гэтага чалавека, хоць у Акадэміі навук амаль 40 гадоў і нават давялося працаваць разам і побач з ім больш 10 гадоў. Упэўнены, што так скажуць і многія яго вучні і калегі.

І яшчэ адна выснова: колькі б я ні гартаў архівы і яго асабістыя справы, я не мог прачытаць таго, аб чым даведаўся ў час нядаўняй сустрэчы ў яго рабочым кабінеце: столькі пачуў новых фактаў і ўбачыў дакументаў, якія ў тых справах адсутнічаюць.

**НА ЗДЫМКУ: Г. ГАРАНСКІ, П. МАШЭРАЎ і В. КУПРЭВІЧ у Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі АН Беларусі. Канец 60-х гадоў.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ДА 105-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАНСТАНЦЫІ БУЙЛО

"Люблю наш край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла". Песня гэта ўсё гучыць і гучыць. Яе спяваюць "дзеўкі ў полі" і праслаўленыя прафесійныя музычныя калектывы. Песню ведаюць беларусы ва ўсім свеце, бо ўжо першыя яе гукі нібы пароль, па якім роднасныя душы пазнаюць адна адну. Для іх няма мовы прыгажэйшай за матчыну беларускую, няма краю лепшага за той, дзе яны нарадзіліся, і няма смутку большага, чым жыць удалечыні ад гэтага краю.

Вершу "Люблю" амаль сто гадоў, а яго аўтар, паэтэса Канстанцыя Буйло, нарадзілася 105 гадоў таму. Згодна з архіўнай даведкай, падзея гэта адбылася 2 студзеня 1893 года ў Вільні. Дзяцінства і юнацтва прайшлі на Беларусі. І хоць гэта быў непрацяглы час у параўнанні з усім доўгім жыццём паэтэсы, якое яна пражыла ўдалечыні ад Бацькаўшчыны, яго хапіла, каб сціплая вясковая дзяўчынка стала сапраўды нацыянальнай паэткай, а Беларусь была для яе адзінай



і непараўнальнай ні з якой іншай краінай. Канстанцыя Буйло, пражыўшы амаль 70 гадоў у Маскве, вершы пісала на беларускай мове, мела ў Беларусі шмат сяброў сярод пісьменнікаў, яе любілі дзеці, яна чакала ад іх лістоў і акуратна пісала сама.

Пасля смерці Канстанцыі Буйло ў 1986 годзе яе прах быў перанесены ў Вішнева, дзе некалі жыла сям'я панскага аб'ездчыка Антона Буйло. Імя паэтэсы носіць Вішнеўская сярэдняя школа, на будынку якой ёсць мемарыяльная дошка ў яе гонар.

Канстанцыя БУЙЛО

### БЕЛАРУСЬ

**Агністымі успыхамі**
**Гараць зарніцы белыя.**
**Жытнёвымі уздыхамі**
**Плывуць палеткі спелыя.**
**Зямля мая далёкая,**
**Зямля мая цудоўная,**
**Радзіма сінявокая,**
**Каму красой ты роўная!**
**Мо ёсць і прыгажэйшыя,**
**Каму што ў свеце глянецца.**
**Мая ж найдаражэйшаю**
**Да смерці мне астанецца.**

*1946.*

ВЯРТАННЕ ІМЯ

# ЯКУБ НАРКЕВІЧ-ЁДКА

***Якіх бы вышынь ні дасягалі сыны Уздзеншчыны, яны не губляюць памяці пра свой родны кут. І зямля адпаведна помніць і беражэ іх. І так будзе да той пары, пакуль будзе доўжыцца адвечны лад беларуса.***

Гэта згадка прыйшла на памяць аўтару гэтых радкоў, калі на збегу года на Уздзеншчыну прыйшло свята 150-годдзя з дня нараджэння выдатнага беларускага вучонага, урача, вынаходніка, дзеяча культуры Якуба Наркевіча-Ёдкі, якое прыпадае на 27 снежня.

Здаецца, неяк раздаўся і прасвятлеў той кароткі снежаньскі, пахмурны ад мяцелічнай завірухі дзень.

Чытачы "Голасу Радзімы" памятаюць імя вучонага Якуба Наркевіча-Ёдкі і яго справы па няпоўнай на тыя часы публікацыі Л. Казыры пад назвай "Даследчык з Турына", якая прайшла ў нумары ад 7 сакавіка 1983 года.

На міжнароднай навуковай канферэнцыі, што адбылася 12 снежня ў гарадскім пасёлку Узда, гэту радасць падзялілі разам з мясцовымі жыхарамі вядомыя навукоўцы, нашчадкі вучонага, у тым ліку з Масквы, ЗША...

Прадстаўнік старажытнага шляхецкага роду, нашчадак заможных землеўладальнікаў Мінскай губерні, Якуб яшчэ юнаком атрымаў усебаковую адукацыю, уключаючы і артыстычную, прадоўжаную потым у замежных навучальных установах. Ён праслыў віртуозам-піяністам, кампазітарам і нават дырыжорам.

Аднак пазней жыццё сваё прысвяціў урачэбнай справе. Пра яго лекарскія дзеі на Надняпронні да гэтага часу ходзяць легенды-паданні. У працэдуру

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Зімні дзень у Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

НА ПРЫЁМЕ Ў ПРЭЗІДЭНТА

## ПРАЎДА АБ БЕЛАРУСІ ЯШЧЭ З ЦЯЖКАСЦЮ ПРАБІВАЕ ДАРОГУ

"Тыя з вас, хто ў Рэспубліцы Беларусь не першы год, думаю, не забылі становішча процістаяння ўладаў, якое ўсё грамадства трымала ў напружанні, выклікала ў людзей пачуццё трывогі, няўпэўненасці. Дзякуй Богу, што гэта ў мінулым", — заявіў Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка на прыёме ў гонар кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў, консульскіх устаноў і прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый, акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь, які кіраўнік дзяржавы даў 13 студзеня.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што змяніўся да лепшага маральны клімат у нашай краіне. І простыя людзі, і дзяржаўныя служачыя — усе нарэшце атрымалі рэальную магчымасць жыць і працаваць, не апасаючыся за будучыню сваёй дзяржавы.

І вынікі ў наяўнасці: у 1997 годзе і прамысловасць, і сельская гаспадарка рэспублікі зрабілі значны крок наперад. Паднялася рэальная заработная плата, вырас аб'ём тавараабароту, людзі сталі больш будаваць дамоў. І ўсё пазітыўнае ў эканоміцы, гуманітарнай і іншых сферах дасягнута ў выніку сумеснай работы ўсіх галін улады на падставе Канстытуцыі, адобранай на ўсенародным рэферэндуме. "Мы ўпэўнены, што гэта толькі пачатак: усталяванне правапарадку і кансалідацыя нацыі на здаровай аснове, безумоўна, дадуць яшчэ большую аддачу ў матэрыяльнай і духоўнай сферах", — адзначыў Прэзідэнт.

Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ўсё гэта ўяўляе сабой рэзкі кантраст з вобразам Беларусі як неспакойнай краіны, які створаны намаганнямі людзей, што не жадаюць дабра нашаму народу. Жывучасць стэрэатыпаў у міжнародных адносінах, па яго словах, добра вядомая, і яны сёння ствараюць сур'ёзныя праблемы для развіцця міжнародных сувязей рэспублікі. І праўда аб Беларусі, дзе пануе міжнацыянальны і міжрэлігійны мір, дзе чалавек упэўнены ў сваім заўтрашнім дні і адчувае сябе спакойна, яшчэ з цяжкасцю прабівае дарогу.

БЕЛАРУСЬ — ІЗРАІЛЬ

## ВІЗІТ ДЭЛЕГАЦЫІ



З сустрэчы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь пачаўся візіт у нашу краіну групы вядомых грамадскіх дзеячаў Ізраіля на чале з былым прэм'ер-міністрам Шымонам Перэсам. Як падкрэсліў у сваім прывітальным слове Аляксандр Лукашэнка, гэта, па сутнасці, візіт у краіну, якую нашы госці — члены дэлегацыі могуць лічыць роднай: калі яны і не нарадзіліся ў ёй, то карані на беларускай зямлі маюць. Яўрэі ж жывуць на тэрыторыі Беларусі каля шасці стагоддзяў, а ў Валожынскай ешыве (духоўнай школе) бярэ свой пачатак хасідызм — адзін з вядучых напрамкаў сучаснага іудаізму. Дарэчы, сёння ў Ізраілі пражывае амаль сто тысяч выхадцаў з Беларусі, а калі гавораць аб узаемаадносінах нашых краін, абавязкова ўспамінаюць, што родам з Беларусі першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман (дзядзька цяперашняга прэзідэнта Эзера Вейцмана); першы прэм'ер-міністр Бен Гурыён; лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру, дэпутат кнесета Шымон Перэс і многія іншыя.

Як сказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, у членаў дэлегацыі ёсць выдатная магчымасць стварыць для сябе новы вобраз нашай краіны па ўласных уражаннях, а не па тэндэнцыйных паведамленнях СМІ.

Ш. Перэс адзначыў пастаянную ўвагу кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, асабіста Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі да сацыяльных і культурных праблем яўрэйскай абшчыны ў нашай краіне.

Ш. Перэс і асобы, якія яго суправаджаюць, наведалі майстэрню, дзе працаваў славуты скульптар Заір Азгур, і пазнаёміліся з работамі майстра.

НА ЗДЫМКУ: Ш. ПЕРЭС у майстэрні З. Азгура.

ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР

## ЕС ВІТАЕ ЗГОДУ БЕЛАРУСІ

Еўрапейскі саюз вітае згоду Беларусі прыняць кансультатыўна-маніторынгавую групу АБСЕ. Аб гэтым праінфармавала намесніка міністра замежных спраў нашай рэспублікі Ніну Мазай Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Джэсіка Пірс. Як вядома, менавіта Вялікабрытанія цяпер з'яўляецца краінай, якая старшынствуе ў ЕС.

Пасол паведаміла, што ЕС будзе працаваць пільна сачыць за работай кансультатыўна-маніторынгавай групы (КМГ) АБСЕ ў Мінску і спадзяецца, што Беларусь выкарыстае дапамогу КМГ у мэтах развіцця сваіх дэмакратычных інстытутаў, забеспячэння адпаведнасці прынцыпам АБСЕ і выканання сваіх абавязацельстваў, уключаючы павагу правоў чалавека.

АБСЕ — У МІНСКУ

## МЭТА — УДАСКАНАЛЕННЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

Як паведаміла прэс-служба Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, 12 студзеня адбылася сустрэча Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоля Малафеева з паслом, кіраўніком кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ панам Хансам-Георгам Вікам.

Кіраўнік групы паведаміў, што мэтай яе работы будзе аказанне кансультатыўнай дапамогі ў распрацоўцы і паляпшэнні заканадаўства, стварэнні ў дзяржаве інстытута Упаўнаважанага па правах чалавека, а таксама падрыхтоўцы кадраў у гэтай галіне.

Ён заявіў, што асаблівая ўвага з боку яго калег будзе ўдзелена і вывучэнню пытанняў каапераці і інтэграцыі Беларусі ў сусветны эканамічны працэс.

У ходзе сустрэчы Анатоль Малафееў адзначыў важнасць дзейнасці кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ для складання аб'ектыўнай думкі аб узнікшай у рэспубліцы сітуацыі. "Беларускія парламентарыі, — сказаў Старшыня Палаты прадстаўнікоў, — адкрытыя для дыялога і канструктыўнага супрацоўніцтва".

У сустрэчы прыняў удзел намеснік Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімір Канаплёў, кіраўнікі шэрагу пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў. З боку АБСЕ на сустрэчы прысутнічаў дырэктар Цэнтра па прадухіленню канфліктаў АБСЕ Ян Кубіш.

НА МІЖПАРЛАМЕНЦКУЮ 99-ю

## ДЭЛЕГАЦЫЯ АДПРАВІЦЦА Ў НАМІБІЮ

На імя Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу нашай рэспублікі Анатоля Малафеева прыйшло запрашэнне ад спікера Нацыянальнай асамблеі парламента Намібіі, Старшыні Нацыянальнай групы Рэспублікі Намібія ў Міжпарламенцкім саюзе прыняць удзел у 99-й Міжпарламенцкай канферэнцыі, якая пройдзе з 6 па 11 красавіка ў Віндхуку.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, па рашэнню Савета Палаты прадстаўнікоў для ўдзелу ў 99-й Міжпарламенцкай канферэнцыі ў Намібію будзе накіравана дэлегацыя Нацыянальнай групы парламента Беларусі ў Міжпарламенцкім саюзе. Узначаліць яе кіраўнік Палаты прадстаўнікоў, Старшыня Нацыянальнай групы Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у Міжпарламенцкім саюзе Анатоль Малафееў.

ЗАНЕПАКОЕНАСЦЬ

## ЗЯМЕЛЬНЫ ФОНД

Першы намеснік старшыні Дзяржкамзема Аляксандр Памелаў выказаў занепакоенасць агульным станам зямельнага фонду краіны. Зямельны фонд Беларусі сёння складае звыш 20 мільёнаў гектараў. З іх 5 мільёнаў 644 тысячы гектараў — землі сельскагаспадарчага прызначэння. Сялянскія і фермерскія гаспадаркі займаюць плошчу 52 тысячы гектараў. У нашай краіне асушана 3 мільёны 300 тысяч гектараў зямель, з якіх 2 мільёны 900 тысяч гектараў выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы. Як паведаміў намеснік дырэктара інстытута меліярацыі Анатоль Мееўскі, Беларусь — адзіная еўрапейская краіна, дзе захавалася 1 мільён 300 тысяч гектараў зямлі ў натуральным стане.

ПЕРАМОЖЦА КОНКУРСУ К. МАЛЕВІЧА



Віцебскі мастак, рэзчык па дрэву і скульптар Аляксандр СЛЕПАЎ (на здымку) стаў пераможцам конкурсу, прысвечанага 120-годдзю з дня нараджэння К. Малевіча.

НАВУЧАЮЦЬ ЯПОНЦЫ



На базе Рэспубліканскага дыспансера радыяцыйнай медыцыны прайшоў навукова-практычны семінар з удзелам японскіх вучоных-медыкаў. Мэта яго — абучэнне ўрачоў рабоце на перасоўных дыягнастычных лабараторыях. У семінары прынялі ўдзел медыкі Беларусі, Расіі і Украіны. З дапамогай трох лабараторый, якія пастаўлены ў рэспубліку па лініі Міжнароднай федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, будуць штогод абследавацца каля 45 тысяч жыхароў забруджаных раёнаў рэспублікі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.

НА ЗДЫМКУ: урач бальніцы японскага Чырвонага Крыжа для тых, хто перажыў атамную бамбардзіроўку ў Нагасакі, МАРЫТО і ўрач з Магілёва Лідзія ШПЕРАВА даследуюць стан шчытападобнай залозы ў маленькага пацыента.

НОВЫЯ ВІЦЕБСКІЯ ТЭЛЕВІЗАРЫ



У 1998 годзе пачнуць сыходзіць з канвеера новыя тэлевізары з маркай віцебскага вытворчага аб'яднання "Віцязь", распрацаваныя ў яго канструктарскім бюро. Сярод іх перанасны апарат з памерам экрана па дыяганалі 37 сантыметраў, а таксама аналага-лічбавыя з дыяганаллю 63 і 72 сантыметры ў драўляным корпусе.

НА ЗДЫМКУ: у руках галоўнага канструктара завода Аляксандра ЛЕВІНА — новы перанасны тэлевізар.

СПОРТ

## МІНЧАНІН — ПЕРШЫ

На перадалімпійскім этапе Кубка свету па фрыстайлу ў Канадзе ўдала выступіў мінчанін Васіль Вераб'ёў. Яму не было роўных у акрабатычных скачках, за выкананне якіх ён атрымаў 230,33 бала. Другое і трэцяе месцы занялі амерыканцы Эрык Бергуст і Брыт Свартлей.

ЗАМЕЖНЫ КАПІТАЛ

## НА ВЫПУСК ШКЛАТАРЫ

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця даў згоду на выдзяленне 8,7 мільёна долараў ЗША для ажыццяўлення праекта па выпуску шклатары ў Беларусі.

Фінансавы пакет банка для шклозавода ў Елізаве, што ў Асіповіцкім раёне, будзе складацца з крэдыту 7,7 мільёна і інвестыцый на адзін мільён долараў у выглядзе ўкладу ва ўстаўны фонд.

Паводле слоў дырэктара аддзялення Балтыйскія краіны/Беларусь Еўрапейскага банка Георгія Крывіцкага, інвесціраванне першага праекта прыватнага прамысловага сектара ў рэспубліцы пасадзейнічае прытоку замежнага капіталу ў Беларусь. А сам праект стане ўкладам у паскарэнне рынкавых рэформ у нашай краіне.

БЕЛАРУСКАЯ НАФТА

## ДА 100-МІЛЬЁННАЙ ТОНЫ

Дзве новыя свідравіны закладваюць у Рэчыцкім раёне буравікі Светлагорскага ўпраўлення буравых работ. У гэтым годзе нафтавікі вытворчага аб'яднання "Беларусьнафта" плануюць павялічыць здабычу "чорнага золата" і датэрмінова даць стомільённую тону нафты з пачатку асваення палескага месцараджэння.

# НЯЗЛОМНЫ ДУХ ГЕОРГІЯ ГАРАНСКАГА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Г. Гаранскі нарадзіўся 26.12.1912 года (08.01.1913) у Казані ў сям'і афіцэра рускай арміі. Бацька яго скончыў Пецярбургскае артылерыйскае вучылішча і атрымаў прызначэнне ў 41 артылерыйскую брыгаду ў Казань, дзе і служыў у тыя гады камандзірам батарэі. Канстанцін Піліпавіч, 1881 года нараджэння, паходзіў са старажытнага Полацка, з інтэлігентнай сям'і. Дзед Піліп Фёдаравіч выкладаў гісторыю і рускую літаратуру ў Полацкай гімназіі і ў Полацкім кадэцкім корпусе, пазней быў камандзірам Ленкаранскага палка. Бацька быў рознабакова адукаваным чалавекам: вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе, затым у Пецярбургу, у 1930-я гады завочна на фізмаце Маскоўскага педагагічнага інстытута. Ён дасканала ведаў французскую мову, захапляўся матэматыкай, літаратурай. Фізічна загартаваны, ён выдатна ездзіў на кані і нават удзельнічаў неаднаразова ў скачках.

Маці Георгія таксама скончыла гімназію, працавала настаўніцай. Яна цудоўна ведала рускую літаратуру, гісторыю і свае веды перадала сыну, які засвоіў дома праграму пачатковай школы не толькі па гэтых, а і па ўсіх прадметах. Георгій змалку любіў занядкі, заўсёды нешта майстраваў, гуляў з сябрукамі каля Волгі, цікавіўся ў бацькі яго ўзнагародамі за ўдзел у руска-японскай і першай сусветнай войнах. З 1918 года бацька — камандзір Чырвонай Арміі ваяваў на многіх франтах грамадзянскай вайны супраць белых і інтэрвентаў.

9-гадовым дзіцем перажыў Георгій жахі страшэннага голаду 1921—1922 гадоў у Паволжы, калі нярэдка людзі выміралі цэлымі сем'ямі, нават вёскамі, а памерлых можна было пабачыць на вуліцах і дварах. Увесь цывілізаваны свет здрыгануўся ад жудасных карцін і стаў збіраць сродкі для дапамогі галадаючым і выратавання ў першую чаргу дзяцей. Былі створаны дабрачынныя фонды, адзін з якіх арганізаваў вядомы нарвежскі даследчык Арктыкі, ганаровы член Пецярбургскай АН Фрыцьяф Нансен. Будучы ў 1920—1921 гадах вярхоўным камісарам Лігі нацый, ён сабраў грошы, закупіў у ЗША прадукты, і іх раздавалі дзецям. Георгій памятае, як атрымліваў порцыю кукурузнай кашы, кавалак белага хлеба і кубак кавы адзін раз у дзень. Прадстаўнікі ж міжнароднай камісіі сачылі, каб абяссіленыя дзеці самі з'ядалі ўсё, што ім давалася, і не маглі перадаць дарослым. Праз які год ці два Георгій пачуў ад маці, што Ф. Нансен узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй.

Волга, Казанскі Крэмль з прыгожай вежай Сююмбекі, Заалагічны музей, мнагалюдны порт са шматлікімі параходамі, будынкі Казанскага універсітэта, помнік узяцця Казані Іванам Грозным запомніліся Георгію на ўсё жыццё.

Паколькі бацька падаваў рапарты аб пераводзе ў родную Беларусь, яму нарэшце дазволілі гэта ў 1925 годзе. Уся сям'я, з Георгіем і маленькай сястрой Вольгай, пераязджае з Казані ў Віцебск, а потым у Мінск, куды накіравалі служыць бацьку. Тут ён працаваў выкладчыкам і кіраўніком артылерыйскага факультэта Беларускай аб'яднанай вайсковай школы, а пасля выхаду на пенсію — старшым выкладчыкам вайсковай кафедры БПІ.

Пасля сканчэння сямігодкі ў 1928 годзе Георгій пачаў працаваць. Кім толькі ні давялося яму пабыць, колькі спецыяльнасцей асвоіць, якімі рамёствамі і навыкамі авалодаць?! Лепш задаць пытанне: чаго ён у жыцці не ўмее? Але, як кажуць, любыя веды за плячыма не цягаць, яны не абцяжарваюць, бо так ці іначай спатрэбяцца ў жыцці. Так яно пазней і адбылося, калі стаў кіраваць людзьмі. Спачатку паспрабаваў сябе рознарабочым на Мінскай балотнай станцыі і ў будаўнічых арганізацыях. Потым пасля 3-месячных курсаў у Цэнтральным інстытуце працы атрымаў кваліфікацыю муляра 4-га разраду, пазней — спецыяльнасць ліцейшчыка-фармоўшчыка. Умеў цяслярыць. Усё гэта спатрэбілася на мінскіх будоўлях. У прыватнасці, на будаўніцтве Дома ўрада, дзе Георгій разам з брыгадай будаваў ліфтавую шахту правага крыла, альбо на будаўніцтве кацельнага цэха завода імя Варашылава.

Адначасова вучыўся на вячэрнім рабфаку будаўнічага інстытута, які скончыў у 1933 годзе, тады ж паступіў на механічны факультэт БПІ.

Поспехі ў інстытуце былі азмрочаны вялікім горам, якое абрынулася на сям'ю Гаранскіх 28 красавіка 1938 года і якое негатыўна ўплывала на лёс усіх яе членаў на працягу амаль дваццаці год. У гэты дзень быў арыштаваны бацька, у кватэры зрабілі вобыск і канфіскавалі ўсе каштоўныя рэчы. Не знаходзіла месца маці, не спала начамі, плакала. З'явіліся новыя турботы: перадачы для бацькі, хаджэнне па інстанцыях, скаргі, стаянне ў чэргах разам з іншымі жанчынамі. Георгій даведаўся аб арышце бацькі, будучы на пераддыпломнай практыцы ў Ленінградзе, куды для праверкі прыехаў дэкан факультэта. Канстанцін Піліпавіч быў асуджаны 11 лістапада 1938 года асобай тройкай НКУС БССР да вышэйшай меры пакарання як "агент нямецкай разведкі". Расстраляны 27 лістапада 1938 года ў Мінску. Але праўду аб яго смерці родныя змаглі даведацца толькі пасля XX з'езда партыі і поўнай пасмяротнай рэабілітацыі 30 кастрычніка 1956 года.

Кляймо сына "ворага народа" раз-пораз давала аб сабе знаць, ды вельмі балюча. Па названай прычыне Г. Гаранскаму адмовілі ў ВАКу ў паступленні ў дактарантуру Ленінградскага політэхнічнага інстытута ў 1955 годзе.

Папрацаваўшы кароткі час галоўным механікам Мінскай шчотачнай фабрыкі, ён перайшоў на завод імя Кірава канструктарам і па сумяшчальніцтву ўладкаваўся асістэнтам у родным політэхнічным інстытуце на кафедры "Тэхналогія машынабудавання".

З пачаткам другой сусветнай вайны ў верасні 1939 года Георгія прызвалі ў армію. У якасці камандзіра агнявога ўзвода артылерыйскай батарэі ён удзельнічаў у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь, а потым у крывавай савецка-фінляндскай вайне 1939—1940 гадоў. Вярнуўся да працы канструктара на станкабудаўнічым заводзе і выкладчыка БПІ ў кастрычніку 1940 года. Аднак ненадоўга... Як і было пазначана ў мабілізацыйным прадпісанні, 24 чэрвеня 1941 года Георгій прыйшоў на плошчу Волі ў Мінску да будынка райваенкамата, але той быў разбомблены. Ва Уруччы яму і іншым сказалі ісці ў Барысаў, бо РВК на іх вачах ад'язджаў туды. Ішлі дзень і ноч. У Барысаве знайшлі РВК, і Георгій атрымаў накіраванне камандзірам узвода ў 37 мотастралковую дывізію, што прыбыла з Масквы. З баямі адступалі па шляху Віцебск—Ліёзна—Смаленск—Вязьма, пад Ельняй удзельнічалі ў жорсткім контрнаступленні. У час абароны Масквы Георгій знаходзіўся ў складзе 133 стралковай дывізіі 16 арміі на чале з К. Ракасоўскім. У канцы 1941 года моцна кантужаны і паранены ў нагу. Пасля выздараўлення трапіў на Калінінскі фронт у зенітна-артылерыйскі дывізіён РГК (Рэзерва Галоўнага Камандавання), начальнікам штаба якога ён скончыў вайну ў складзе 2 Прыбалтыйскага фронту. Удзельнічаў у вызваленні горада Асвея Віцебскай вобласці. За выдатнае кіраванне агнём у баях за Курляндыю ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені.

Да Георгія прыйшла ў дывізіён горкая звестка: сястра Вольга, лейтэнант медыцынскай службы, загінула ў баях у Нарвегіі ў маі 1945 года і там пахавана ў брацкай магіле. Капітан Гаранскі з двума ордэнамі і медалямі ў верасні 1945 года вярнуўся да адзінокай маці і да любімай справы ў тых жа ўстановах, але на больш высокім узроўні. Дырэктар завода імя Кірава А. Золаў прызначыў яго галоўным тэхнолагам. У alma mater дырэктар М. Дарашэвіч прапанаваў пасаду дацэнта, крыху пазней выконваючага абавязкі загадчыка кафедры "Тэхналогія машынабудавання". Георгій уключыўся энергічна ў аднаўленне разбуранай гаспадаркі зруйнаванай сталіцы Беларусі. БПІ таксама ляжаў у руінах, засталася толькі каробка галоўнага корпуса. У пачатку лета 1946 года Гаранскага прызначаюць дэканам механічнага факультэта БПІ, што патрабавала ад яго поўнай аддачы сіл. Прыйшлося пакінуць працу галоўнага тэхнолага станкабудаўнічага завода і прысвяціць сябе навукова-педагагічнай і адміністрацыйнай дзейнасці. Неймаверна хутка, усяго праз 2 гады пасля гэтага, абараніў кандыдацкую дысертацыю, здзіўляючы калег высокай працавітасцю, цягай да ведаў і іх паглыблення. З гэтае пары без навукі жыццё сваё Георгій Гаранскі ўявіць ужо не мог.

З яго актыўным удзелам быў узноўлены галоўны корпус, пабудаваны механічны цэх і эксперыментальныя майстэрні, частка інтэрнатаў.

Больш пяці гадоў быў дэканам механічнага факультэта. З 1948 года ўзначальваў кафедру "Станкі і рэзанне металаў", атрымаў навуковае званне дацэнта, выдаў вучэбныя дапаможнікі і даведнікі па станках. Апошнія тры гады сталай працы ў БПІ ён быў дэканам тарфянога факультэта і намеснікам дырэктара па навуковай працы.

Нельга не адзначыць яго добразычлівых, уважлівых адносін да работнікаў БПІ і студэнтаў, ён ніколі не рабіў гучных "разносаў", з павагай ставіўся да кожнага чалавека, да яго годнасці і жыццёвых патрэб. Гэтыя якасці спатрэбяцца яму на пасадах кіраўніка ўстаноў. Вось адкуль тлумачэнне таго, што Георгій разумеў і інжынера, і праграміста, мантажніка, лабаранта, навуковага супрацоўніка, канструктара, будаўніка, праекціроўшчыка, тэхнолага, рабочых.

Для Георгія Гаранскага заўсёды была характэрнай цесная сувязь навуковых распрацовак з практыкай, з машынабудаўнічай вытворчасцю. Ён падтрымліваў кантакты з вядучымі прадпрыемствамі, ведаў дасягненні іх і хібы. На прадпрыемствах значна вырас узровень аўтаматызацыі вытворчых працэсаў, у параўнанні з якім праца канструктараў, інжынераў у праектаванні і тэхнічнай падрыхтоўцы вытворчасці заставалася нізкапрадукцыйнай, было шмат руцінных аперацый, марудна і з памылкамі праходзілі працэсы праектавання. У гэтым Георгій пераканаўся, будучы ў 1956—1957 гадах начальнікам аддзела і галоўным інжынерам вядомага СКБ-8 завода аўтаматычных ліній. У яго выспелі ідэі па кардынальнаму паляпшэнню работы канструктарска-тэхналагічных аддзелаў, аўтаматызацыі інжынернай працы.

Таму як нельга дарэчы была прапанова перайсці на працу ў Акадэмію навук Беларусі ў Інстытут машыназнаўства і аўтаматызацыі, рашэнне аб адкрыцці якога было прынята незадоўга да таго ўрадам рэспублікі і прэзідыумам Акадэміі навук Беларусі. Тагачасны прэзідэнт АН БССР В. Купрэвіч запрасіў да сябе энергічнага кандыдата тэхнічных навук Г. Гаранскага і прапанаваў яму выконваць абавязкі дырэктара новага інстытута. Пасля поўнай рэабілітацыі бацькі ў канцы 1956 года Георгій адчуваў вялікі ўздым, прыліў сіл: хацелася звярнуць горы, дабіцца адчувальнага поспеху.

У сувязі з развіццём у БССР у пасляваенны час новых для яе галін прамысловасці: аўтамабілебудавання, трактарабудавання і інш. — узнікла патрэбнасць у арганізацыі фундаментальных даследаванняў па актуальных і перспектыўных праблемах надзейнасці ствараемых машын. Такія даследаванні былі разгорнуты ў БПІ і Фізіка-тэхнічным інстытуце АН БССР, а з 1957 года ва ўтвораным Інстытуце машыназнаўства і аўтаматызацыі (пазней, з 1971 года, ён рэарганізаваны ў Інстытут праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын). Яго калектыў пачаў даследаванні ў галіне трываласці і даўгавечнасці машын, рэжучых інструментаў, аўтаматызацыі і механізацыі тэхналагічных працэсаў машынабудавання. Георгій Гаранскі прыклаў шмат намаганняў і сіл для арганізацыі, станаўлення інстытута і наладжвання плённых кантактаў з машынабудаўнічымі прадпрыемствамі.

У лабараторыі Гаранскага пачалі разгортвацца работы па фармалізацыі тых працэсаў і дзеянняў, якія выконваюць інжынеры і канструктары пры праектаванні новых узораў тэхнікі і тэхналагічнай падрыхтоўкі іх вытворчасці. Фармалізацыя — гэта выкарыстанне існуючых матэматычных мадэлей працэсаў і распрацоўка новых з дапамогай ЭВМ і шматлікіх праграм. Трэба было ахапіць шырокі комплекс праблем як матэматычна-праграмнага забеспячэння, так і апаратнага, таму што з апошнімі ў тыя гады было вельмі цяжка. Не трэба забывацца, што гэтыя піянерскія работы пачыналіся ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў, калі яшчэ ў Вялікай Савецкай Энцыклапедыі пісалі пра кібернетыку, што гэта буржуазная навука, калі па сутнасці толькі ў 1959 годзе з'явіліся ў Беларусі (БДУ і АН БССР) першыя ЭВМ "Урал-1" з хуткадзеяннем 100 аперацый у секунду і Мінскі завод матэматычных машын выпусціў лямпавую ЭВМ "Мінск-1" у 1960 годзе, а паўправадніковыя машыны 2-га пакалення "Мінск-2", "Мінск-22", "Мінск-23", "Мінск-32" пазней.

Калі ў 1963 годзе інстытут падпарадкавалі Дзяржкамітэту па машынабудаванню пры Дзяржплане СССР, дзве лабараторыі кібернетычнага профілю перайшлі ў Інстытут матэматыкі і вылічальнай тэхнікі (ІМіВТ), дзе Гаранскага прызначылі намеснікам дырэктара па ВЦ.

Далучэнне лабараторыі Гаранскага да ІМіВТ было для яе прагрэсіўнай справай, таму што яна атрымала непасрэдны доступ да ЭВМ і бібліятэкі праграм, павысілася матэматычная культура, амаль усе першачарговыя патрэбнасці ў вылічальных магутнасцях задавальняліся, бо ўзровень эксплуатацыі ЭВМ і падрыхтоўкі кадраў праграмістаў і электроншчыкаў у ІМіВТ быў высокі. Працаваць побач з такімі карыфеямі ў галіне вылічальнай матэматыкі, як акадэмік У. Крылоў, матэматычнай кібернетыкі, як акадэмік А. Супруненка, з выдатным матэматыкам і адначасова літаратарам М. Яругіным, будучым акадэмікам У. Спрынджуком было падарункам лёсу. Гэты шанц Гаранскі скарыстаў. Яны паўплывалі станоўча на ўзровень распрацовак, на матэматычную фармулёўку задач, бо гэта вельмі важна: у кожнай навуцы столькі навукі, колькі ў ёй матэматыкі.

Працуючы на ВЦ ІМіВТ, я меў магчымасць назіраць, з якой настойлівасцю, натхненнем, жаданнем працавалі супрацоўнікі лабараторыі Гаранскага над праграмамі, наладжвалі іх, выпраўлялі памылкі, выказваючы ўзаемадапамогу і прыязныя адносіны адзін да аднаго. Гаранскі дэманстраваў выключную, можна сказаць, здзіўляючую працаздольнасць. Ён сам часта заходзіў у машынную залу, цікавіўся ходам работ і радаваўся разам з усімі, калі нешта ўдавалася і здараўся поспех, здзяйснялася задуманае ці прыходзіла азарэнне. Мяне прываблівала яго манера ўважлівых стасункаў з больш маладымі, але адукаванымі калегамі, якія добра разбіраліся ў мудрагелістых праграмах. Падчас вячэрніх і начных дзяжурстваў даводзілася бачыць яго ці працуючым да поўначы, ці абмяркоўваючым нешта з калегамі, ці распытваючым у дзяжурных інжынераў пра стан і работу тэхнікі.

Плённую творчую працу трэба было сумясціць з арганізацыйнай па стварэнню новага інстытута, бо Камітэт па каардынацыі НДР СССР пастановай ад 24.07.64 года вызначыў кібернетычную частку ІМіВТ АН БССР у якасці міжгаліновай галаўной арганізацыі СССР па ўкараненню матэматычных метадаў і вылічальнай тэхнікі для аўтаматызацыі працэсаў інжынернай падрыхтоўкі вытворчасці ў машынабудаванні і ўключыў гэтыя работы ў план найважнейшых навуковых даследаванняў і доследна-канструктарскіх работ СССР. Напрамак работ і атрыманыя вынікі ўхваліў прэзідэнт АН СССР незабыўны М. Келдыш, які асабіста пазнаёміўся са станам распрацовак у гэтай галіне, а лідэрам і стваральнікам яе быў прызнаны Георгій Гаранскі.

Падзеі развіваліся імкліва. 8 кастрычніка 1964 года Прэзідыум АН СССР пастанавіў арганізаваць у Акадэміі навук БССР Інстытут тэхнічнай кібернетыкі, а 10 лютага 1965 года інстытут быў утвораны згодна з пастановай Савета Міністраў БССР на чале з дырэктарам Г. Гаранскім.

Энергічны і няўрымслівы ў працы, ён шмат чаго паспеў зрабіць за наступныя 5 гадоў. Пабудаваў адзін з прыгажэйшых па архітэктуры будынкаў навуковых інстытутаў Беларусі (па Сурганава, 6), на фасадзе якога красавалася прыгожая эмблема ўзлятаючай увысь ракеты. Стварыў вялікі кваліфікаваны калектыў, якому даверылі чарговы раз быць галаўным у СССР па распрацоўцы аўтаматызаваных сістэм тэхналагічнай падрыхтоўкі вытворчасці (АС ТПВ) і канструявання, да працы якога праяўлялі цікавасць і непрыхаваны інтарэс многія айчынныя і замежныя ўстановы і прадпрыемствы. Падрыхтаваў і абараніў доктарскую дысертацыю "Элементы тэорыі аўтаматызацыі сінтэзу машынабудаўнічых канструкцый" (1968), дзе распрацаваў тэорыю алгарытмізацыі, матэматычнага мадэлявання і аптымізацыі складаных працэсаў тэхналагічнага праектавання і канструявання. Стаў прафесарам і членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі (1969). Падрыхтаваў вучняў, што сталі дактарамі навук і лаўрэатамі Дзяржпрэміі БССР. Пабываў у многіх краінах: Англіі, Бельгіі, Канадзе, Венгрыі, ГДР і інш., чытаў лекцыі ў Таронта на англійскай мове, бо свабодна валодаў ёю пасля сканчэння ў свой час у Маскве завочных курсаў, дзе атрымаў кваліфікацыю перакладчыка. Выступаў на многіх навуковых форумах, у тым ліку на Першым міжнародным кангрэсе кібернетыкі ў Лондане (1969).

Можна сказаць, што гэты перыяд (1957—1970 гады) — зорны час Георгія Гаранскага. Таму што менавіта тады праявілася рэдкае спалучэнне глыбокага пераканаўчага розуму даследчыка, таленту і настойлівасці арганізатара, волі і цвёрдасці кіраўніка, гібкасці дыпламата, кемлівасці і знаходлівасці інжынера-вынаходніка, смеласці і прадбачлівасці архітэктара складаных аўтаматызаваных комплексаў, кругагляду сістэмнага аналітыка, вопыту будаўніка, напорыстасці франтавіка, здольнасці хутка і дакладна рабіць разлікі, натхнення, духоўнага ўздыму і творчай апантанасці "шасцідзесятнікаў". Ён змог ацаніць магчымасці вылічальнай тэхнікі, сродкаў аўтаматызацыі і праграмнага забеспячэння, метадаў матэматычнага мадэліравання і пакінуць след у перыяд бурнага колькаснага і якаснага развіцця беларускай навукі.

Гэтым якасцям Георгія Гаранскага навучыла яго папярэдняе жыццё і бесперапынная вучоба (аб неабходнасці і метадах бесперапыннага навучання шмат гавораць у нашы дні). Здавалася, што тады ён мог усё. Зламаць альбо абысці перашкоды. Пераканаць у правільнасці дзеянняў. Паверыць у поспех тых, хто сумняваўся (такіх, дарэчы, было нямнога). Сфармуляваць перспектыўныя накірункі даследаванняў і магчымыя станоўчыя вынікі для развіцця навукі і на карысць народнай гаспадаркі.

Упэўнены: калі б Георгій Канстанцінавіч не напісаў нават ні адной кніжкі, не быў навуковым рэдактарам ніводнага зборніка, ён усё роўна ўвайшоў бы ў гісторыю навукі і заслужыў бы нашу ўдзячнасць. За тое, што заснаваў новы навуковы напрамак, арганізаваў два акадэмічныя інстытуты, падрыхтаваў шмат вучняў. Павялічыўся на дзве набытак манаграфій: у 1970 годзе выйшлі з друку "Элементы тэорыі аўтаматызацыі машынабудаўнічага праектавання з дапамогай вылічальнай тэхнікі" і кніжка па машыннаму праектаванню спецыяльных свідравальных прыстасаванняў.

Георгій Гаранскі працаваў усё жыццё. Працягвае працаваць і цяпер, будучы інвалідам першай групы. Днямі выйшла манаграфія групы вучоных ІТК "Аўтаматызацыя праектавання тэхналагічных працэсаў і сродкаў аснашчэння" (Мінск, 1997), для якой ён напісаў першыя дзве главы з шасці. Поўнасцю падрыхтавана да друку "сольная" манаграфія аб'ёмам 45 друкаваных аркушаў "Інтэлектуальная інтэграваная экспертная сістэма аўтаматызаванага праектавання ў машынабудаванні". Гэта ўжо 10-я. Але ж як яе выдаць? Выдавецтва "Беларуская навука" патрабуе заплаціць за яе выданне шмат мільёнаў рублёў. Гэта непад'ёмна нават для цэлага інстытута. Але Гаранскага не пакідае вера і надзея: франтавікі так лёгка не здаюцца.

Гэтыя нататкі хацеў бы закончыць словамі Аляксандра Грывачэўскага, лаўрэата прэміі прафсаюзаў Беларусі, галоўнага вучонага сакратара Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій:

— Дар навуковага прадбачання, шырыня і маштабнасць яго мыслення, глыбіня і арыгінальнасць фармулёўкі навуковых праблем, сістэмны падыход да іх вырашэння, настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты і ў той жа час сціпласць і чалавечнасць — вось тыя якасці, якія хацеў бы адзначыць у Георгія Канстанцінавіча. Яны здабылі яму высокі навуковы аўтарытэт і вялікую павагу сярод калег не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Ён абраны акадэмікам Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій. Апошнія некалькі гадоў працуем разам з ім над рэалізацыяй адной з навуковых тэм праграмы фундаментальных даследаванняў працэсаў аўтаматызаванага праектавання. Нягледзячы на свой шаноўны ўзрост, ён па-ранейшаму здзіўляе нас сваёй працаздольнасцю, творчай актыўнасцю і плённай аддачай. Дай, Божа, яму здароўя, сілы-моцы і далейшых поспехаў у любімай справе на карысць Бацькаўшчыны і беларускай навукі!

**Мікалай САВІК.**

## МУЗЕІ



**Для музея гісторыі Магілёва сабрана больш за восем тысяч экспанатаў. Асобую каштоўнасць маюць калекцыі кніг, ікон XVIII—XIX стагоддзяў, прадметы быту магіляўчан мінулых гадоў, фотаздымкі і дакументы.**

**НА ЗДЫМКУ: дырэктар музея гісторыі Магілёва Ігар ПУШКІН паказвае частку экспанатаў.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

## НАС ВІНШУЮЦЬ І НАМ ЗЫЧАЦЬ

Паважаны рэдактар!

Ад шчырага сэрца віншуем вас і ўсіх супрацоўнікаў газеты са святам Нараджэння Хрыстова і Новым, 1998 годам. Зычым добрага здароўя, шчасця і радасці.

Жадаем у новым годзе нашай Радзіме — Рэспубліцы Беларусь лепшага жыцця і міру. Мы ўзнімаем бакалы за нашу Беларусь і за ваша здароўе.

Вашу газету і я, і мой муж чытаем з вялікай цікавасцю. Жадаем, каб у 1998 годзе "Голас Радзімы", як і ў гады мінулыя, нёс суайчыннікам за мяжой дарагія весткі з Бацькаўшчыны. Жадаем новых поспехаў у працы.

**Надзея ОСТЭРБАН-ГАЛІЁНКА.**
Галандыя.

Шчыра віншую ўсіх супрацоўнікаў "Голасу Радзімы" са святамі Каляд і Новым, 1998 годам!

Жадам вам моцнага здароўя, бадзёрасці духу, ажыццяўлення вашых планаў. Каб і ў Латгальскім краі заўсёды быў чуцён мілы нашым сэрцам "Голас Радзімы".

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА, старшыня беларускай суполкі "Уздым" у г. Даўгаўпілс.**
Латвія.

Шаноўны рэдактар!

З нагоды Калядаў і Новага года жадаю вам і супрацоўнікам рэдакцыі "Голасу Радзімы" добрага здароўя, творчых поспехаў, многіх радасных дзён.

Адначасова дзякую за штотыднёвік, які чытаю з зацікаўленнем. Радуе культура інфармацыі і яе высокі прафесійны ўзровень.

**Юры ТУРОНАК.**
Польшча.

Прыміце сардэчныя віншаванні ад беларусаў Малдовы са святамі Калядаў і Новым годам. Жадаем усёй рэдакцыі "Голасу Радзімы", каб новы, 1998 год прынёс добрае здароўе, энергію для плённай працы па выкананні шляхетнага абавязку — даваць нам, беларусам замежжа, усе неабходныя веды аб сучасным жыцці і мінуўшчыне Беларусі, пісаць больш аб нашых уласных праблемах і клопатах, дапамагаць у іх вырашэнні. "Голас Радзімы" — гэта вельмі неабходная нітачка сувязі з нашай Бацькаўшчынай.

Памятайце: беларусы, якія жывуць за мяжой Радзімы, заўсёды з цікавасцю і нецярпеннем чакаюць кожны нумар вашай газеты.

**Уладзімір ДЗЯРЖЫЦКІ, старшыня Рады беларускай грамады ў Рэспубліцы Малдова.**
г. Кішынёў.

***АД РЭДАКЦЫІ: Не маючы магчымасці надрукаваць і дзесятую долю віншаванняў, дасланых у рэдакцыю чытачамі "Голасу Радзімы", мы выказваем усім глыбокую падзяку за добрыя пажаданні краіне, народу, супрацоўнікам рэдакцыі. Ваша стаўленне да таго, што мы робім, маральная падтрымка і высокая ацэнка газеты — для нас вышэйшая ўзнагарода і заахвочванне да лепшай працы.***

## *СПАДЧЫНА*

# АДЫСЕЯ ПЕНЕЛОПЫ

Амаль ці не кожная справа НКУС, незалежна ад таго, чым яна канчалася — пакараннем смерцю ці тэрмінам — мае працяг у выглядзе аднаго ці больш дадатковых тамоў. У іх — дакументы рэабілітацыі, перапіска са сваякамі загінуўшага, запыты з размаітых арганізацый ды копіі адказаў на гэтыя запыты... Не з'яўляецца выключэннем у гэтым сэнсе і справа Абабуркі. На момант арышту ў яго была жонка Бася Адольфаўна ды дзве дачкі: Клара 14-ці гадоў і сямігадовая Луіза. Усе трое, як вынікае з дадатковага тома, перажылі вайну. Рабілі запыты пра лёс Міхаіла Рыгоравіча, хадайнічалі аб рэабілітацыі, накіроўваючы лісты аж да Варашылава ды Хрушчова. На гэтых лістах, перасланых у КДБ ЯАССР, значацца зваротныя адрасы, якія зачаста мяняліся: адзін з Магілёва, другі з Ленінграда... Я выпісваў гэтыя адрасы, добра разумеючы, што скарыстоўваць іх няма сэнсу.

І раптам натыкаюся на запыт з "Социалистической Якутии": газета просіць паведаміць асноўныя факты справы Абабуркі, таму што ў ёй рыхтаваўся артыкул аб "репрессированном в Якутии коммунисте". І між іншым у запыце гаворыцца, што "в распоряжении редакции имеется переписка старожила г. Якутска В. А. Пласкеевой с членом Ленинградского общества "Мемориал", вдовой Абабурко Эстеркиной Басей Адольфовной".

Адразу ж бягу ў рэдакцыю. Дарэмна! Артыкул, аказваецца, рыхтаваў Валерый Канькоў. А Канькоў, таленавіты журналіст і паэт, не дажыўшы да сарака гадоў, раптоўна памёр. Гэтая смерць глыбока ўразіла ўсіх, хто ведаў Валерыя, у тым ліку і мяне. Але дзе перапіска Эсцеркінай і Пласкеевай? Выявілася: згублена іншым журналістам.

Даведваюся па 09 тэлефоны некалькіх Пласкеевых і тэлефаную: "Извините, ради Бога, говорит ли вам что-нибудь фамилия Абабурко?" І нарэшце: "Конечно, очень даже говорит... А в чем дело?" І калі я тлумачу, раптам чую: "А знаете, Бася Адольфовна жива. У меня адрес есть". Вось табе раз! А я думаў — перапіска старая.

І вось сам пішу Басі Адольфаўне ды атрымліваю адказ. І зноў пішу з просьбаю распавесці ўсё, што ў яе сілах, пра мужа і пра сябе.

"Хочу сказать, — напісала Бася Адольфаўна ў першым лісце, — что аресту М. Г. способствовал Рейбекель Николай, который очень хорошо знал моего мужа и меня. Этот негодяй работал в Полоцке, где работал Абабурко директором Сельхозбанка. (...) Рейбекеля я встретила в 1937 году в Якутске. Вот он-то и сообщил, видимо, в НКВД, что Абабурко был знаком с Тухачевским и Кутяковым (Кутяков был в Полоцке командиром дивизии, был вхож в наш дом). Этот гадкий Николай подсмеивался надо мною. Говорил, что Кутяков хотел меня украсть и Тухачевский тоже был в меня влюблен. За два дня до ареста М. Г. пришел домой в ужасном состоянии. Ему предъявили обвинение за связь с Тухачевским. "Скорей, Басик, согрей воды, — сказал он, — у меня в голове, видно, вши завелись". Я согрела воду, налила в таз, и... волосы остались в тазу. Поменяла воду — и снова то же самое. В итоге вытерла ему голову — сплошную лысину и выбросила полотенце вместе с волосами".

Якім жа гэта быў жахлівы час, калі чалавека даводзіла да падобнага стрэсу толькі папярэдняя размова ў НКУС! Ды яшчэ гэткага бясстрашнага, як былы чырванкам Абабурка. Але ў следчай справе яго няма ніякіх згадак ні аб Тухачэўскім, ні аб Куцякове. Ці сапраўды запытвалі Абабурку аб Тухачэўскім да арышту? Гэта яшчэ адна загадка справы Абабуркі... Няма і даносаў Рэйбекеля.

"Успокоившись немного, М. Г. со слезами в горле попросил меня: когда Клара (ей было тогда 14 лет) выйдет замуж и родит сына, пусть она даст ему фамилию Абабурко. После этого м ы с Луизой стали стремительно собираться к отъезду из Якутска. Описать, как прощались в спешке — трудно... Когда мы с Луизой уселись в машину, кто-то из пассажиров крикнул. М. Г. упал в обморок, а машина в это время тронулась с места. Что было со мной, нетрудно догадаться... Ехали в грузовой машине, крытой брезентом, в конце якутского декабря. Коченели ноги, терзал страх за семилетнюю Луизу, прижавшуюся к боку. Хорошо, что хоть Клара тогда жила в Москве, у знакомых. О чем только ни передумалось. Вспоминала доброе, радостное — чтобы не гадать о том, что будет..."

"Познакомилась я с Михаилом Григорьевичем в 1922 году в Могилеве таким образом. Он тогда служил командиром ЧОН. Я участвовала в спектакле, который показывали в клубе для коммунистов, участников конференции, после ее закрытия. На конференции Абабурко сидел в президиуме. Он меня увидел, когда мы суетились за кулисами, устанавливая декорации. После спектакля попытался со мной познакомиться, но мне было не до него, так как я участвовала еще и в концерте. Тогда мой "герой-любовник" узнал мой адрес и заявился к нам домой, где договорился с мамой, что снимет у нас комнату, пообещав снабжать дровами (тогда это был большой дефицит)...

Так вот мы стали жить под одной крышей. Мы очень подружились, даже мама моя М. Г. полюбила. До нового, 1923 года, наша дружба перешла в любовь. На встречу Нового года был собран актив города. В том числе командир ЧОНа и я. После торжественной части были общие игры. Брались за руки, кружились, веселились. И вот командир ЧОНа мне шепнул: "Это наша свадьба". В ночь на первое января 1923 года мы фактически поженились. Регистрация в ЗАГСе нам была тогда чужда".

Успамінала, як пасля гэтага паехала ў Ленінград паступаць на драматычныя курсы. У Ленінградзе ўжо жылі дзве яе сястры і два браты (у Магілёве яшчэ заставаліся два браты і сястра). З курсамі не атрымалася: раптам прыехаў Абабурка і сказаў, што яго пераводзяць у Гомель. Яна паехала з ім. Тым самым патаемнае зрабілася яўным: яўрэйская дзяўчына выйшла за неяўрэя, што лічылася ў яўрэяў вялікаю правінасцю. Неўзабаве Абабурку ізноў перавялі ў Мінск. Ехаць з Гомеля ў Мінск трэба было праз Магілёў. "Я написала матери: если родственники меня признают, пусть меня встретят, стоянка поезда 20 минут". Атрымаўшы ліст, маці, старэйшая сястра ды два браты, а таксама ўсе сяброўкі і камсамольцы прыйшлі сустрэць цягнік.

Колькі было яшчэ пераездаў з горада ў горад: па Беларусі — Барысаў, Слуцк, Полацк, потым Масква, Якуцк, Іркуцк, ізноў Якуцк... "Я же, — пісала яна ў верасні 1955 года Варашылаву, просячы паведаміць аб лёсе Абабуркі, — с маленькими детьми не покидала мужа и следовала за ним туда, куда бы он ни был назначен и где бы ни работал".

І вось прыйшлося пакінуць у цяжкі час. Страшна было: раптам назаўсёды?

Па дарозе ў Маскве захапіла Клару, прывезла дачок у Ленінград. Сюды з Магілёва перабралася ўжо амаль уся вялікая сям'я Эсцеркіных. Родныя сказалі: каб зберагчы дзяцей, з арыштаваным мужам трэба развесціся. Яна і сама гэта разумела. Падала на развод...

Ды ўсё роўна прапісацца ў Ленінградзе не атрымалася. Пакінуўшы дачок на радню, паехала ў Магілёў, да сястры. Раптам — ліст... Луіза ў Ленінградзе моцна выцяла калена. Дактары лячылі няправільна, і развіўся касцявы туберкулёз.

Кінулася ў Ленінград. Вырашыла там і застацца. Але як быць з прапіскаю? Пачула, што адкрыліся курсы бухгалтараў. Скончыш — атрымаеш працу, прапіску ды жыллё. Дзякуй Богу, прынялі. У 34 гады вучылася, як старанная школьніца. Ні адзінай лекцыі па бухгалтэрыі не прапусціла. Усё запісала, перадрукавала на машынцы і перапляла. Атрымаўся гатовы падручнік. На выпускным вечары ўручыла выкладчыку.

Луізу ўладкавала ў тубсанаторый пад Ленінградам. І ўсё б нічога, ды вайна... Луізу сваякі павезлі ў Томск, у эвакуацыю. А для Басі Адольфаўны і Клары, якая працавала ва Упраўленні чыгункі, пачалася блакада.

Грузіла на чыгуначныя платформы пясок для засыпання вітрын ды помнікаў. Цягала камяні для супрацьтанкавых равоў. Было шмат усялякай працы. А хлеба, страшэннага блакаднага хлеба, давалі ўсё меней. Цудам выжыла, дацягнула да вясны. Летам Упраўленне чыгункі эвакуіравалася ў Котлас. Клара прывезла з сабою і маці — у апошняй ступені знясілення.

Трошкі ачуняўшы, з Котласа рушыла ў Томск, дзе Луізе павінны былі зрабіць аперацыю калена. Зрабілі яе толькі ў 1944 годзе. Забрала дачку і адправілася ў Котлас да Клары. І вось парадокс: тут жонка "врага народа" ўладкавалася бухгалтарам... у Котласлаг.

У 1945 годзе яе мабілізавалі ў горад Ханлар Азербайджанской ССР, дзе працавала на "строительстве № 108 НКВД" да 1 красавіка 1947 года. Калі даведалася, што старэйшая сястра жыве ў Батумі, паехала туды. А ў 1949 годзе разам з сястрою вярнулася ў родны Магілёў.

Пачыналася паласа рэабілітацый. У 1955 годзе Бася Адольфаўна едзе ў Ленінград. Але яе пакой даўно заняты якімсьці адміралам, а яе ўвогуле не прапісваюць у горадзе, быццам яна ў ім не жыла, не ратавала яго сваёй працай. Каб атрымаць прапіску, уладкавалася вучаніцаю свідравальшчыка. У пяцьдзесят з гакам гадоў! І зрабілася такой свідравальшчыцаю, што, калі знайшлося месца бухгалтара, не жадалі адпускаць.

Усё ўтраслося з часам... І Міхася Рыгоравіча рэабілітавалі 30 красавіка 1957 года. Толькі праўды аб смерці ягонай не казалі. Вось дакумент са справы Абабуркі: "Начальнику Учетно-архивного отдела УКГБ при СМ СССР по Ленинградской области. Просим объявить гражданкам Эстеркиной Басе Адольфовне и Абабурко Луизе Михайловне, что их муж и отец Абабурко Михаил Григорьевич... 21 октября 1938 года был осужден на 10 лет и, отбывая наказание в местах заключения, 12 декабря 1943 года умер от крупозного воспаления легких. Начальник УАО КГБ при СМ ЯАССР майор Каневский". І гэта складзена ў 1963 годзе!

Я доўга думаў, ці паведамляць Басі Адольфаўне, што Абабурка быў расстраляны яшчэ 25 лістапада 1938 года. Боязна было: а раптам не вытрывае сэрца, якое столькі пакутавала. Але потым вырашыў: пакуты загартоўваюць. А дзень смерці блізкага чалавека трэба ведаць. Бо ў гэтыя дні мы ў думках звяртаемся да іх, хто адышоў, памінаем іх у нашых малітвах. І я напісаў. Адначасова даслаў следчы фотаздымак Абабуркі.

...Жыве ў Санкт-Пецярбургу старая мужная жанчына. На яе долю выпала столькі выпрабаванняў, што хапіла б і на дзесятак мужчын. Яны, выпрабаванні тыя, не ўсе змясціліся ў маім кароткім нарысе. Басі Адольфаўне праз год споўніцца дзевяноста. Яна часта хварэе. Жыве ў нястачы. Але не губляе галоўнага: яснасці розуму і меркаванняў. 11 чэрвеня 1991 года яна пісала мне: "Завтра буду голосовать за Президента Ельцина и мэра города Собчака".

Ці можна яе назваць Пенелопай? Я думаю, можна. Бо паўторна замуж яна не выйшла, захаваўшы вернасць загінуўшаму мужу. З той толькі розніцаю, што сама здзейсніла гэткае вандраванне, якое і Адысею не снілася, не тое, што ягонай Пенелопе.

**Іван ЛАСКОЎ.**

*(Пераклад з выдання: И. Ласков "Одиссея Пенелопы" — "Молодежь Якутии", 9.IV.93 г. Якутск).*

**Заканчэнне. Пачатак у № 2.**

# ЯКУБ НАРКЕВІЧ-ЁДКА



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

лячэння ён не адмаўляўся ўключаць і народны вопыт, і гаючыя ўласцівасці наднёманскай мясцовасці, у першую чаргу таемную па тых часах атмасферную электрычнасць, гіпноз, музыку і нават кумыс. Апошняга вырабляў на сваёй сядзібе да 5 тысяч бутэлек у сезон.

Павучальна прасачыць развіццё яго яркай навуковай пазіцыі, праграма якой была выпрацавана, відаць, яшчэ на пачатку жыццёвага шляху.

Прыродныя фактары і іх уздзеянне на жывы свет яму належала напачатку асвоіць, вывучыць. Дзеля таго Якуб уладкоўвае метэаралагічную станцыю, якая па сваёй абсталяванасці была галоўнай на Міншчыне. Праз яе дзейнасць Якуб становіцца членам-карэспандэнтам Мікалаеўскай фізічнай абсерваторыі ў Пецярбургу, членам Метэаралагічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства, уваходзіць у блізкія адносіны з выдатным расійскім кліматолагам А. Ваейкавым.

Ідзе паступовае паглыбленне ў сутнасць з'яў атмасфернай электрычнасці. Градаадводы, якія яшчэ з ранейшых часін прымяняліся ў маёнтку, выкарыстоўваюцца ім для прыцягнення ў глебу атмасфернай электрычнасці. На плошчы болей за 200 гектараў укараняецца так званая электракультывацыя, ці электракультура, інакш — апрацоўка глебы электрычным токам, што павышала ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур. Праз гэтыя работы Я. Наркевіч-Ёдка зблізіўся з выдатным вучоным А. Саветавым.

Паглыбленне ў свет электрычнасці прадаўжаецца. Вывучаецца ўздзеянне яе на расліннасць. Вопыты пераносяцца потым на чалавека. Узнікае патрэба распрацаваць метад выяўлення наяўнасці электрычнасці ў расліне ці ў арганізме. Вучоным у 1891 годзе для гэтай мэты прапаноўваецца так званая электраграфія, г. зн. спосаб атрымання электраадбіткаў з раслін, органаў жывога арганізма. Сёння ён неабгрунтавана вядомы ва ўсім свеце як "эфект Кірліян", хоць Кірліяны паўтарылі са спазненнем на пяцьдзесят гадоў толькі тэхнічны бок вынаходства Я. Наркевіча-Ёдкі.

Амаль адразу ж электраграфічныя адбіткі былі выкарыстаны для ацэнкі фізічнага і нават псіхалагічнага стану пацыента і змен ходу хваробы. За гэтыя работы Наркевіч-Ёдка залічваецца членам-супрацоўнікам вельмі аўтарытэтнай тады ўстановы — Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу і членам шмат якіх навуковых устаноў і таварыстваў Францыі, Італіі, былой Аўстра-Венгрыі.

Далейшы пошук прыводзіць да адкрыцця Я. Наркевічам-Ёдкам новага метаду электратэрапіі, які адрозніваецца ад іншых бескантактным уздзеяннем на абмежаваныя ўчасткі цела. Ён у клініках Італіі атрымаў назву "сістэмы Ёдкі". А сам аўтар у коле выдатных вучоных Заходняй Еўропы, такіх, як Ж.-М. Д'Арсанваль, К. Райхенбах, Э. Ру, М. Зенгер, Ч. Ламбразо, Гальфарэлі, К. Фламарыён, С. Барадзюк і інш., меў ганаровыя тытулы электролага, электратэрапеўта і, нарэшце, "электрычнага чалавека". У Расіі працы вучонага ацэньвалі Д. Мендзялееў, І. Боргман, А. Ваейкаў, Ф. Петрушэўскі, А. Саветаў, Э. Красоўскі...

Не выпадкова ў 1900 годзе на міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Парыжы Якубу Наркевічу-Ёдку было нададзена званне прафесара, заслугі яго ў галіне прыродазнаўчых навук былі несумненныя.

Свае ідэі вучоны-ўрач правяраў і ўдасканальваў выключна ў сваім маёнтку "Над-Нёман". Тут ён лячыў шматлікіх пацыентаў з далёкіх краін. "Санаторыум" доктара Якуба Ёдкі быў вядомы, як і сама сядзіба, далёка за межамі губерні і Расіі.

Пошук працягваўся. Вучоны ў сваёй "атмасферычнай станцыі", што знаходзілася на 27-метровай вежы сядзібнага дома, ажыццяўляе прыём сігналаў навальнічных разрадаў на адлегласці да 100 кіламетраў. Вось ён, той першы радыёпрыём!

Болей таго, у лютым 1891 года Я. Наркевіч-Ёдка дэманструе ў Пецярбургу на пасяджэнні Фізічнага аддзялення Рускага фізіка-хімічнага таварыства пры ўдзеле рускага вучонага-фізіка І. Боргмана работу так званага "бяздротавага тэлеграфа". Потым тыя вопыты былі паўтораны і за мяжой.

Гэтымі адкрыццямі, афіцыйна засведчанымі не толькі ў Расіі, але і за мяжой, вучоны намнога апярэдзіў сваіх калег-навукоўцаў.

Яшчэ некалькі вынаходстваў, скіраваных на патрэбы сельскай гаспадаркі (з яе ён здабываў сродкі для навуковых даследаванняў) і метэаралогіі, вучоны зрабіў у 90-х гадах мінулага стагоддзя. І ўсё тое здзейснена на працягу няпоўных 25-ці гадоў!

Адкрыцці Я. Наркевіча-Ёдкі не засталіся па-за ўвагай. Электраграфічны метад выкарыстоўваецца не толькі для дакладнай дыягностыкі захворванняў, але і для вызначэння сумяшчальнасці членаў доўгачасовых экспедыцый і, як нам здаецца, ляжыць у аснове вядомага "дэтэктара хлусні" ды яшчэ шмат якіх тэхнічных дастасаванняў сучаснай навукі і тэхнікі. На жаль, імя нашага земляка пры гэтым не згадваецца. Таму мы маем маральнае права аргументавана і ў той жа час настойліва абараняць прыярытэт Я. Наркевіча-Ёдкі.

Рэдкі выпадак: усё жыццё вучонага прайшло ў "Над-Нёмане", адзінаўласнікам якога ён стаў з 1888 года. Тут, паблізу ў маёнтку маці Турыне, ён з'явіўся на свет. Тут ён знайшоў сямейнае шчасце і свой вечны прытулак у 1905 годзе. Менавіта тут зараджаліся і здзяйсняліся яго выдатныя творчыя ідэі, рабіліся здзіўляючыя навуковы свет вынаходствы і адкрыцці. Звернем увагу — не ў вялікіх, спрыяльных для творчасці цэнтрах, а на сціплых прасторах Наднямоння.

Таму нічога дзіўнага ў тым, што міжнародная навуковая канферэнцыя "Якуб Наркевіч-Ёдка: вяртанне імя" прайшла менавіта на яго радзіме ў гарадскім пасёлку Узда. Яе ўдзельнікі пачалі ўрачыстасці з ускладання кветак пашаны на руіны колішняй сядзібы "Над-Нёман".

На пасяджэнні вылучаўся перш за ўсё творчы феномен вучонага.

Яго асоба была і засталася неад'емнай ад роднага яму Наднямоння, якое здавён адзначана спрыяльным уплывам вытокаў ракі Нёман. Нямала выпесціла яно неардынарных людзей! І Якуб Атонавіч не



выключэнне. Прымалася як належнае, што адкрыцці вучонага аднолькава даступныя як высокаму вучонаму кшталту, так і падсвядомай інтуіцыі простых сялянскіх людзей. Можа таму на Уздзеншчыне акрамя афіцыйнага склаўся і працягваецца ў памяці яго народны вобраз на аснове перадаваемых паданняў.

Удзельнікі канферэнцыі пагадзіліся, што філасофскі бок навуковага погляду Я. Наркевіча-Ёдкі не можа быць асэнсаваны праз спрошчванне і прымітывізацыю. А такое "разуменне", па сутнасці фальсіфікацыя навуковых дасягненняў нашага земляка, суправаджала вучонага яшчэ пры жыцці і працягваецца да сённяшняга дня. Да прац даследчыка апелююць бесперапынна і тэосафы, і спірыты, і неамістыкі нашага часу.

Нарэшце, працы Я. Наркевіча-Ёдкі, прайшоўшы выпрабаванне часам, не губляюць сваёй актуальнасці і цяпер. Яны не пазбаўлены і ў нашых умовах свайго навуковага рэзерву. Наадварот, новыя навуковыя здабыткі толькі яшчэ больш вы-разна адбіваюць і адцяняюць значнасць мінулага патэнцыялу. Вельмі магчыма, што такая заканамернасць захаваецца і надалей, пройдзе праз пакаленні.

150-гадовы юбілей вучонага супаў з 25-годдзем высілкаў па адраджэнню навуковай спадчыны Я. Наркевіча-Ёдкі. Асэнсаваны асноўныя накірункі і змест дзейнасці, выяўлены абставіны асабістага жыцця навукоўца, сабраны звесткі пра яго род і сядзібу.

Лёс навуковых ідэй неспазнаны... Славуты фізік Эрнест Рэзерфард на гэты конт аднойчы выказаўся так: "Пры сваім узнікненні навуковая ісціна праходзіць тры стадыі разумення. Спачатку кажуць, што гэта абсурд, затым — у гэтым нешта ёсць. Нарэшце — усё гэта добра вядома!". Дык вось, па гэтай градацыі ў адносінах асваення спадчыны Якуба Наркевіча-Ёдкі мы знаходзімся недзе на пераходзе ад першай да другой стадыі.

У апошні час даследчыкі звяртаюць увагу на асобу Я. Наркевіча-Ёдкі як на значную культурную і грамадскую з'яву Міншчыны на пераломе стагоддзяў. Ён слыў вытанчаным і еўрапейскі адукаваным чалавекам. Акрамя музычных заняткаў Якуб Атонавіч займаўся яшчэ археалогіяй, этнаграфіяй, арганізацыяй народных хораў. У сваёй мясцовасці ладзіў санітарыю і народную гігіену, укараняў новыя вакцыны і сывараткі, наладжваў бясплатныя аптэкі ў суседніх вёсках і ў старажытным Слуцку, прымаў удзел у распачатым царквой антыалкагольным руху. Гэта неад'емны ад яго асобы філантрапічны бок дзейнасці.

Пошукі спадчыны вучонага вяліся кампетэнтным колам шчырых і цікавых людзей. Пра іх аўтар гэтых радкоў паспрабаваў расказаць у падрыхтаваным да канферэнцыі макеце брашуры пад назвай "Парадоксы электрычнага чалавека". Да 150-годдзя вучонага выдадзены прысвечаны яму нумар часопіса "Беларуская мінуўшчына".

Сёння фігура Я. Наркевіча-Ёдкі як даследчыка, вынаходніка, урача, мецэната ўзнята з палону забыцця, замацавана ў многіх навуковых працах, увайшла ў даведнікі, энцыклапедыі, падручнікі. Гэта ўжо само па сабе добра.

Праведзеныя пошукі дазваляюць сцвярджаць на прыкладзе дзейнасці Я. Наркевіча-Ёдкі пра існаванне яшчэ з XIX стагоддзя не толькі культурнага, але і трывалага, плённага беларуска-заходнееўрапейскага навуковага супрацоўніцтва. Маем спадзяванне, што з часам у Італіі побач з мемарыяльнымі дошкамі Ф. Скарыны і М. Агінскага з'явіцца і адзнака ў гонар Я. Наркевіча-Ёдкі.

Нагаданая канферэнцыя падсумавала вынікі зробленага. Па яе матэрыялах створаны архіў, што знаходзіцца ў Музеі прыроды і экалогіі Рэспублікі Беларусь — сённяшнім уладальніку сядзібнай тэрыторыі "Над-Нёман".

Удзельнікі канферэнцыі агледзелі прысвечаную вучонаму творчую выставу беларускіх мастакоў, твораў вучонага і прац пра яго, рэпрадукцый электраграфічных здымкаў, прагледзелі прысвечаныя яму відэафільмы.

Сустрэча завяршылася вялікай культурнай праграмай. Па выніках канферэнцыі будзе выдадзены зборнік матэрыялаў.

Безумоўна, вучоны апярэдзіў час і не толькі свой, але, здаецца, нават і сённяшні. Таму пакуль немагчыма канчаткова меркаваць аб глыбіні яго пранікнення ў таемны свет прыроды. Вось чаму зараз прымаюцца захады да пачатку другога, магчыма болей працяглага, этапу даследаванняў, разлічанага ўжо на ўдзел новага пакалення.

На новым шляху нас чакаюць прынцыпова новыя знаходкі, у прыватнасці, выяўленне арыгінальных электраграфічных здымкаў, болей дэталёвае апісанне яго навуковага, несумненна матэрыялістычнага, метаду, прылад, схем і раскрыццё тэхналогіі вопытаў.

Для аргументаванага пацвярджэння прыярытэту вучонага ў шэрагу яго адкрыццяў узнікае патрэба паўтарэння некаторых яго вопытаў з мэтай высвятлення іх фізічнай асновы і прынцыпаў дзеяння. Ёсць неабходнасць выступіць у абарону вучонага супраць злоўжывання яго працамі ў няпэўных сцвярджэннях, асабліва праз сродкі тэлебачання. Абараніць навуковую сімволіку вучонага, у першую чаргу электраграфічныя адбіткі, вобраз наднёманскай вежы.

Трэба сабраць інфармацыю пра выкарыстанне вынаходстваў вучонага ў сучаснай навуцы, медыцыне, тэхніцы і тэхналогіі, суаднесці іх з імем першаадкрывальніка.

Вядома, што Я. Наркевіч-Ёдка ў канцы мінулага — пачатку гэтага стагоддзяў падтрымліваў вельмі цесныя адносіны з вучонымі Заходняй Еўропы. Амаль штогод ён ехаў за мяжу, чытаў там лекцыі, друкаваўся, выстаўляў свае працы. У еўрапейскіх архівах знаходзіцца амаль ці не асноўная частка работ вучонага.

Было б вельмі пажадана, каб да нашых намаганняў далучыліся і замежныя нашы



беларускія сябры. Мы спадзяемся, што і супрацоўнікаў замежных беларускіх устаноў зацікавіць дзейнасць нашага суайчынніка і яны прымуць магчымы ўдзел у высакароднай справе аднаўлення яго вучонай спадчыны.

У нас ёсць падрабязны пералік замежных устаноў, асоб і дакументаў, якія могуць праліць святло на лёс вучонага. Яны датычаць у першую чаргу Парыжа, Вены, Фларэнцыі, Берліна. Такая інфармацыя можа быць прадастаўлена ўсім зацікаўленым праз рэдакцыю "Голасу Радзімы".

Кульмінацыяй новага этапу павінна стаць узнаўленне сядзібнага дома і метэастанцыі ў "Над-Нёмане" як турысцкага аб'екта. Вось менавіта гэтай ідэяй заклапочаны нашчадак вучонага — архітэктар з Чыкага Хрысціян К. Наркевіч-Лейн, які прыняў удзел у снежаньскай канферэнцыі.

У ёй удзельнічала і нашчадак роду Наркевічаў-Ёдкаў — вядомы вучоны з Масквы ў галіне кібернетыкі доктар тэхнічных навук Алена Маркава. Яна прывезла для захавання ў мясцовым музеі дакументы пра вядомых прадстаўнікоў роду, падаравала некаторыя дамашнія рэліквіі з яе родавай спадчыны.

На сустрэчы яшчэ адзін прадстаўнік роду, малады будаўнік з Мінска Сяргей Ёдка толькі распачаў пошук свайго месца ў славутай дынастыі...

У завяршэнне хацелася б дадаць, што вяртанне выдатных імёнаў з багатай гісторыі Наднямоння не абмяжоўваецца толькі Я. Наркевічам-Ёдкам. Упэўнены, што з часам Уздзеншчына будзе не меней урачыста згадваць імёны царкоўнага гісторыка, археолага, багаслова і філосафа Уладзіміра Завітневіча; некалі галоўнага садавода Расіі і Саюза Васіля Пашкевіча; выдаўца, вядомага журналіста і пісьменніка пушкінскіх часоў Фадзея Булгарына ды інш. Усе яны з Уздзеншчыны, і іх жыццё, творчасць заслугоўваюць такога ж уважлівага манаграфічнага і проста чалавечага ўшанавання...

**Уладзімір КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Я. НАРКЕВІЧ-ЁДКА. 1891 год; энергіды і дзінаміды на лістоце розных раслін; сядзібны дом у "Над-Нёмане", магчыма, 1864 год. Гравюра з малюнка Н. Орды.**

## ЛІСТЫ МАКСІМА ТАНКА ДА МІХАСЯ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

# «НІЗКІ ПАКЛОН ТВАІМ ПЕСНЯМ...»

Дарагі Міхапе! Зноў я перад Табою вінаваты, бо кідае мяне нейкі цыганскі бог з адной камандзіроўкі ў другую, і я са спазненнем адказваю на лісты самых блізкіх і дарагіх мне сяброў. Вось і заўтра збіраюся паехаць у Брэст, у Бярозу, а там — пленум Саюза пісьменнікаў і некалькі юбілеяў, потым зноў нейкія гастролі. Вершы пішу толькі тады, калі ўсе добрыя людзі адпачываюць. Зараз думаю над новым зборнікам. Некаторыя з маіх апошніх твораў, здаецца, будуць надрукаваны ў адным з нумароў часопіса "Полымя", які прышлю Табе. Даўно не бачыў і дзядзьку Рыгора, і многіх нашых супольных знаёмых, якія, відаць, летам недзе адпачывалі за горадам, на лоне прыроды. Гэтымі днямі атрымаў пісьмо ад Івана Ганькі, які недзе працуе інжынерам на Сярэднім Урале. Хутка мае пайсці на пенсію. Як годы ідуць! Я яму напісаў пра сустрэчы з Табою ў Мінску, пра Твае выступленні. Досыць трагічна склалася ў яго жыццё ў годы вайны. Добра, што хоць зараз лепш.

Дзякую Табе, Міхале, за падарунак. Ты ўсё клапоцішся аб іншых. А непакоіцца трэба больш нам аб Табе, бо Ты, хоць і ў сяброў жывеш, але, кроме роднай песні, няма блізка нікога каля Цябе. І лісты, і кнігі — далёкія галасы землякоў. Будзем спадзявацца, што загляне радзімы сонца і ў Тваё аконца. Што да верасоў, дык я на іх баюся і глядзець, хоць вельмі іх люблю. Усё больш і больш яны мне напамінаюць аб мінулай маладосці. Мо таму і лезуць у галаву сумныя вершы, як: "У ноч дзядоў"

**У гэту ноч дзядоў для ўсіх памёршых**
**Застаўлены стол пакідала маці,**
**Каб душы іх, да сваякоў прыйшоўшы,**
**Маглі пагрэцца і пасілкавацца.**

**Але пакуль знаёмых круг быў шырак,**
**І захаду не бачыў маладосці,**
**Не наближайся той апошні вырай, —**
**Мне не было каго чакаць у госці.**

**Цяпер жа ў памяці маёй бяссоннай**
**Усе ажылі таварышы, іх справы...**
**Не прыбірайце са сталоў сягоння**
**Куцейных лыжак, і пітва, і стравы!**

**Мо нехта з іх блукае ў навальніцы,**
**Знаёмай хаты і святла шукае!**
**Ноч завывае за сялом ваўчыцай.**
**Ідзіце спаць, а я іх пачакаю.**

Пра тое, што пісаў І. К. Цішчанка, будзем калектыўна думаць і трэба нешта зрабіць.

Сардэчнае Табе прывітанне ад усёй маёй сям'і. Моцна Цябе абдымаю.

**Твой Максім.**

Мінск. 14/IX.64 г.

20.11.64.

Дарагі Міхапе! Зноў я апынуўся ў неаплатным даўгу перад Тваёю памяццю і лістамі, якія атрымаў ад Цябе і за якія шчыра Табе дзякую. Перад Кастрычніцкай Гадавінай я толькі змог паслаць Табе два нумары "Полымя". Ці атрымаў Ты іх? Наступныя нумары прышлю пазней. Пасля Новага Году будзем друкаваць вельмі цікавыя рэчы Мележа, Караткевіча, Шамякіна... Пастараюся і іх прыслаць Табе, каб і Ты, чытаючы іх, парадаваўся. З Тваіх лістоў і паштовак бачу, што і Ты апошнімі часамі вядзеш цыганскі, вандроўны вобраз жыцця. Гэтымі днямі і я вярнуўся з чарговай камандзіроўкі! Быў на Палессі, якое пакінула шмат цікавых і харошых уражанняў. Сёлета там надзвычайны (асабліва на тарфяніках) ураджай бульбы і цукровых буракоў. Ну, калі ўраджай на зямлі, будзе ўраджай і ў песнях.

Гутарыў я, Міхале, з маім другам Ул. Калесніком, выкладчыкам літаратуры ў Брэсцкім педінстытуце і нашым вельмі харошым крытыкам, і з іншымі таварышамі аб тым, каб як прывесці ў парадак магілу Тваёй маці. Абяцалі яны заняцца гэтай справай. Калі буду ў Брэсце, пагавару яшчэ і з нашымі абласнымі кіраўнікамі, каб нам дапамаглі.

Мы ўсе дужа рады, што Ты не толькі жыў, здароў, але і так плённа працуеш на ніве мастацтва, знаёміш сваіх шматлікіх слухачоў са скарбамі роднай песні. Нізкі паклон табе, дарагі Міхапе, за гэта. Сёння быў у рэдакцыі "Полымя", дзе сустрэў шмат Тваіх сяброў. Калі сказаў, што атрымаў ад Цябе паштоўкі і сёння збіраюся Табе пісаць, прасілі і Брыль, і Бажко, і Гілевіч перадаць Табе сардэчнае прывітанне, што я ім і абяцаў. Пагода зараз у нас асенняя, каб не розныя пасяджэнні, здаецца, пісаў бы нешта, накштапт:

**О, колькі ў нас нянек у літаратуры,**
**Дарадчыкаў і невясёлых, і хмурых,**
**Прыхільнікаў розных сіропаў і сосак,**
**Ахоўнікаў сцёртых пытальнікаў, косак, —**
**Што часам шукае ў натоўпе рука**
**Сустрэць хоць бы нейкага ерэтыка!**

Або:

**Ён доўга адмывае свае потныя рукі**
**Ад знаёмства і дружбы, небяспекі, дакукі,**
**Каб ніколі не быць у жыцці вінаватым.**
**І здаецца мне: зноў бачу постаць Пілата.**

Бачыш, якая ерась лезе ў галаву, калі за вакном шуміць дождж. Лепш да яго не прыслухавацца. Моцна Цябе абдымаю і цалую. Прывітанні ад усёй маёй сям'і.

**Максім ТАНК.**

Дарагі Міхапе!

Апошнія два месяцы быў у дарозе. Толькі што вярнуўся з Польшчы. Шкада, што мы размінуліся. З газет і ад сяброў чуў аб Тваіх трыумфальных гастролях, аб сардэчных сустрэчах на Беласточчыне, аб шчасці і радасці людзей, якія бачылі Цябе і чулі Тваю песню. Вялікую Ты справу зрабіў, пабываўшы ў сваіх землякоў. Рэха Тваіх песень будзе ўсё жыццё звінець у іх сэрцах, весці іх праз усе нягоды і выпрабаванні. Меўся і я з Янкам Брылём сустрэцца з беларускай калоніяй у Варшаве, але столькі было розных канферэнцый, што не было вольнай хвіліны, а пад канец і мы прыхварэлі, і змушаны былі скарацць свае гастролі і вярнуцца дамоў. Зараз глытаю розныя пілюлі. Чакаю, калі спадзе тэмпература. Моцна Цябе абдымаю. Жадаю шмат здароўя, шчасця. Прывітанне Табе ад усёй маёй сям'і.

**Максім ТАНК.**

Мінск, 18/XI. 65.

Дарагі Міхапе!

Вярнуўшыся з Масквы, паехаў на сваю Нарач, дзе, калі нічога не перашкодзіць, буду да канца жніўня. Лета сёлета ў нас — пагожае і цёплае, ягаднае і грыбное. Больш стараюся праводзіць часу ў агародзе з рыдлёўкай, часам з Міхасём Ціханавічам Лынькоўым ездзім рыбачыць. Часта мяне тут наведваюць сябры з Мінска і Вільнюса. Як было б цудоўна, каб Ты тут змог хоць некалькі дзён адпачыць і душой і целам! Праўда, зараз тут ужо няма былой цішыні і паэзіі, бо процьма розных турыстаў і адпачываючых, магазінаў і рэстаранаў, шуму, гаму. Але, калі ўсё гэта схлыне з берагу, вечарам так прыемна паслухаць гаючага шуму Нарачы!

Прызнацца, пабойваюся нават вяртацца ў Мінск, дзе мяне зноў чакаюць розныя неадкладныя справы.

Я дужа рад, дарагі Міхапе, што Ты трымаешся, што Ты з песняй сваёю будзіш душы, радуеш сэрцы людзей, каб яны не ачарсцвелі. Апе мне сумна чуць, што нейкія перашкоды ставяцца на шляху Тваёй песні. Відаць, лягчэй запяцець на Месяц, чым прасвятліць нейчы медны лоб.

Вярнуўшыся дамоў (на зімнюю кватэру), прышлю Табе наступныя нумары "Полымя". У № 12 будзе змешчана падборка маіх новых вершаў. Вось адзін з іх:

**Свет, у якім мы жывём, — не наш.**
**Яго даўно заказаных паразддавалі**
**Сваім Дульцынеям, Джульетам.**
**Я вось хаджу па зямлі**
**З галавой, перапоўненай песнямі,**
**І нат не здагадваюся і не знаю,**
**Што мо і яе нехта паабяцаў**
**Падарыць нейкай там Саламеі.**

Пасля Новага года "Полымя" будзе выходзіць павялічаным памерам. Стане зусім салідным часопісам. Зможам больш друкаваць твораў сваіх пісьменнікаў і перакладаў з братніх літаратур. Зараз памаленьку рыхтую свой чацвёрты том збору твораў, у які хачу даць свае віленскія дзённікі, пераклады і свае новыя вершы. Работы шмат, асабліва — з дзённікамі, дзе шмат старонак было запісана так, што зараз цяжка аднавіць некаторыя імёны, факты, падзеі. Дарагі Міхапе, шчырыя прывітанні і найлепшыя пажаданні засылаем Табе ўсе. Моцна абдымаю.

**Твой Максім ТАНК.**

Нарач. 22/VIII. 66 г.

**Працяг.**
**Пачатак у № 52 за 1997 год — №№ 1, 2 за 1998 год.**

## *СЦЕЖКАМІ ЯКУБА КОЛАСА*



# ПІШЫЦЕ ВЕРШЫ НА МОВЕ МАЦІ

**"Злажу я песню той краіне,**
**Што ў свет сваіх дарог**
**шукае..."** — пісаў Я. Колас у паэме "На шляхах волі". Маладыя прадстаўнікі гэтай краіны ідуць сёння паэтычнымі сцежкамі народнага паэта і шукаюць "у свет сваіх дарог".

Багатая на паэтычныя таленты Міншчына, як і ўся наша Беларусь. "Каласкі", "Кропелькі", "Ручайкі", з Мінскага раёна аб'яднаіся ў літаратурна-творчую суполку "Купалінка", якая налічвае каля 40 юных паэтаў, і кіруе ёю паэт Мікола Чарняўскі — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Маўра. А дапамагае наладзіць цікавыя сустрэчы і паездкі арганізатар Мінскага раённага аддзела адукацыі Лілія Жаўнярковіч. "Купалінцы" пабывалі ўжо ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры, музеях М. Багдановіча і Я. Купалы, у Вязынцы, у Акопах.

24 снежня "Купалінка" сабралася ў Літаратурным музеі Я. Коласа. Знаёмства з музеем пачалося з прыхожай, у якой калісці распранаўся і сам паэт. Здавалася, ён увайшоў сюды і распрануўся разам з намі: вунь у шафе вісіць яго паліто і шапка (цяпер гэта мемарыяльнае адзенне). Але ён будзе "чакаць" нас на другім паверсе, дзе мы пачуем яго голас (запісаны на магнітную стужку).

А па залах першага паверха нас павяла ўдумлівы і цікавы экскурсавод Марыя Далідовіч, загадчыца аддзела. Да 115-й гадавіны з дня нараджэння Я. Коласа экспазіцыя музея абноўлена, папоўнілася цікавымі экспанатамі.

З захапленнем слухалі вучні пра вялікую сям'ю Міцкевічаў, пра родных братоў і сясцёр Я. Коласа. Карціна мастака-графіка Міколы Купавы "Акінчыцкая сядзіба" дапамагла ім увявіць хату-леснічоўку, у якой нарадзіўся будучы паэт. Цікава, што ў Ластку да сённяшняга дня захавалася хата, у якой бегаў трохгадовы Костусь.

Альбуць, Смольня, Высокі Бераг, Нёман... — усе гэтыя цудоўныя мясціны — калыска паэта, крыніца яго паэтычнага натхнення.

Ёсць аб чым задумацца юным паэтам, стоячы каля такога экспаната, як пастушкова торбачка, у якую клаў Костусь томік баек Крылова ці вершаў Пушкіна або аповесцяў Гогаля. Чытанне было яго любімым заняткам. І ўвазе да роднага слова, да народнай мудрасці Колас вучыўся з дзяцінства.

Захаваліся ў музеі і фальклорныя сшыткі Я. Коласа, якія ён вёў, калі вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Каб стаць народным, ён усё жыццё вучыўся ў народа. Якуб Колас, Карусь Лапаць, Тарас Гушча... Каля 30 розных псеўданімаў было ў паэта.

І я гавару сваім гуртоўцам: "Вучыцеся ў Коласа гэтай любові і памятайце словы паэтава настаўніка Фядота Кудрынскага, якія сталі жыццёвым крэда і для Коласа: "Пішыце вершы на мове сваёй маці".

Падзякаваўшы Марыі Нічыпараўне, мы паднімаемся на другі паверх, дзе знаходзяцца рабочы кабінет і спальня Я. Коласа, а таксама рабочыя кабінеты яго сыноў Данілы і Міхася, утульная гасцёўня. Тут экскурсію прыгавае Іван Курбека — старшы навуковы супрацоўнік музея, заўзяты "коласавец". З яго расказу Колас паўстае перад слухачамі не толькі як паэт, але і як добры, мудры чалавек, сябар, бацька. А калі ў гасцёўні загучала музыка і песня "Мой родны кут, як ты мне мілы" ў выкананні Данчыка, калі вучні пачулі голас Я. Коласа, яго наказ "даходзіць, хоць і вузкімі сцежкамі, да на́шага народа", то сапраўды незвычайны духоўны ўздым адчулі ўсе ўдзельнікі сустрэчы.

На гэтым духоўным уздыме адбывалася ў Коласавай гасцёўні пасяджэнне "Купалінкі", абмеркаванне новых твораў юных паэтаў. Кожная творчая знаходка выклікала ў сяброў суполкі радасць і ўдзячныя апладысменты, як, напрыклад, цікавыя творы Наталлі Талкачовай і Алёны Пшыгоцкай з Гатаўскай школы, вершы Ганны Шубік і Кацярыны Цвятковай з Самахвалавіч, байкі, смяшынкі, лірычныя вершы Вольгі Ціхановіч, Таццяны Макаранкі, Жоры Уецускага, Ірыны Пугач, Вікторыі Тарун з Бараўлянскай школы. Цікавымі былі выступленні юных паэтаў са Ждановіцкай, Мачулішчанскай, Рогаўскай, Лугаваслабодскай, Навапольскай сярэдніх школ. Агульны ўзнёслы настрой добра выказаў Дзіма Гладыш:

— Прыгожае заваражвае! Так, здольнасць бачыць прыгажосць свету, здзіўляцца гэтай прыгажосці, быць неабыякавым да жыцця людзей і прыроды робіць чалавека паэтам. Яшчэ не ўсё атрымліваецца добра ў пачынаючых аўтараў, часам "кульгаюць" рытм і рыфмы, але добра, што ў маладых паэтаў ёсць настаўнікі, а яшчэ лепш, калі гэтыя настаўнікі і самі паэты, як шчыры сябар юных талентаў паэт Мікола Чарняўскі, які ўмее і параду добрую даць, і пакрытыкаваць за нядбайнасць, і падтрымаць здольных у радыёперадачы "Першыя сцяжынкі". На гэты раз ён падпісаў на памяць паэтам-пачаткоўцам сваю новую кніжку "Сеў аўторак у аўто", а ў кніжцы — і "Дзівосны гадзіннік", і "Вясёлы каляндар", і выдатныя малюнкі мастака Яўгена Марчанкі.

Зноў гучыць чароўная мелодыя, развітваюцца з гасціннымі гаспадарамі Коласава музея вучні і настаўнікі, дамаўляюцца аб наступных сустрэчах, плануюць паездку летам на радзіму Я. Коласа — у Акінчыцы, Мікалаеўшчыну, на Нёман...

**Эльвіра ЯРЧАК,**
**настаўніца Бараўлянскай СШ,**
**адказны сакратар**
**суполкі "Купалінка".**

**НА ЗДЫМКУ:** у час вечарыны. Выступае паэт Мікола ЧАРНЯЎСКІ.

## З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ЧАСЦІНКА ДУХОЎНАГА АПІРЫШЧА

Бруістыя народныя крыніцы. Колькі ні чэрпай з іх, вада застаецца па-ранейшаму чыстай і сцюдзёнай. А ў дачыненні да крыніц фальклорных смела можна сказаць, што як бы ні рухалася чалавецтва наперад, а вусна-паэтычная творчасць вабіла і вабіць сваёй першароднасцю, нерушавасцю. І гэта тычыцца самых розных жанраў. Узяць хоць такую жніўную песню:

**На гарэ Тацянка пшонку**
**жнець,**
**З цёмнага лясочку тучка**
**ідзець.**
**— Чы не баішся, Тацянка,**
**гэтай тучанькі!**
**— А за што ж я маю**
**яе баяцца!**
**У гэтай тучцы мая мамка:**
**Ані ветрам мяне не абвеець,**
**Ані дажджом мяне**
**не абліець,**
**Долем, шчасцем агарнець.**

Яна настолькі арыгінальная, што даследчыкі лічаць яе сапраўдным шэдэўрам. А запісаў гэты унікальны твор Ян Чачот. На жаль, да нядаўняга часу яго вялікую фальклорную дзейнасць ведаюць у асноўным навукоўцы, якія мелі магчымасць пазнаёміцца з творамі, запісанымі ім як у публікацыях, што даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, так і ў рукапісах, паколькі далёка не ўсё пабачыла свет. Цяпер жа творчая спадчына Я. Чачота паступова вяртаецца з небыцця. Апошнім часам выйшлі дзве яго кнігі — адна ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", другая адкрыла бібліятэку "Беларускі кніжны збор". Праўда, у гэтых тамах у асноўным прапануюцца аўтарскія творы, у тым ліку і тыя, што маюць фальклорную аснову. І толькі нядаўна да чытача прыйшлі і лепшыя ўзоры фальклору, занатаваныя некалі гэтым выдатным паэтам, пачынальнікам новай беларускай літаратуры, дзякуючы якому пасля двухсотгадовага перапынку беларускае слова зноў загучала са старонак кніг.

А адбылося гэта дзякуючы выхаду ў вядомай серыі "Беларуская народная творчасць" (цяпер яе выпускае выдавецтва "Беларуская навука") чарговага тома "Фальклор у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў" (укладанне, сістэматызацыя тэкстаў і каментарыі В. Скідана, А. Хрушчовай, уступны артыкул "Ян Чачот і браты Тышкевічы" Т. Валодзінай).

Канечне і пра Я. Чачота, і пра братоў Тышкевічаў і дагэтуль пісалася нямала, але з артыкулам Т. Валодзінай не лішне пазнаёміцца ўважліва, бо ў ім называюцца не столькі вядомыя факты з біяграфіі гэтых трох выдатных дзеячаў адраджэнскага кшталту, колькі акцэнтуецца ўвага менавіта на фальклорнай дзейнасці кожнага.

Ян Чачот, як вядома, фальклорам захапіўся яшчэ падчас наведвання лекцый у Віленскім універсітэце (паступіць туды, аднак, не змог). Увайшоўшы ў таварыства філаматаў 12 студзеня 1819 года, ён стварыў нямала твораў на аснове беларускага фальклору, якія сталі любімымі песнямі паплечнікаў паэта. Адначасова ён пачынае запісваць вусна-паэтычную творчасць. Праўда, займаўся гэтым нядоўга, бо ў 1824 годзе быў арыштаваны, знаходзіўся ў зняволенні, а пасля ў высылцы і на Беларусь вярнуўся ў 1833 годзе, уладкаваўся на працу ў Лепелі. Тады і ўспомніў пра сваё даўняе захапленне. Першая кніга Я. Чачота "Вясковыя песні з-над Нёмана" з'явілася ў 1837 годзе. А паступова набралася шэсць тамоў. З іх асабліва цікавы апошні. Як сведчыць Т. Валодзіна, "шостая кніжка Чачота ўяўляе сабой першы друкаваны збор арыгінальных беларускіх народных песень з дэталёвай класіфікацыяй матэрыялу, каштоўнымі заўвагамі і этнаграфічнымі звесткамі. Без перабольшанняў можна адзначыць, што гэта сапраўдная навуковая праца".

У зборніку "Фальклор у запісах...", зразумела, змешчаны самыя цікавыя творы, запісаныя Я. Чачотам. Прадстаўлены найбольш поўна песні: калядныя, валачобныя, веснавыя, купальскія, жніўныя, хрэсбінныя, вясельныя, калыханкі, пазаабрадавыя. Як ужо відаць з вышэйпрыведзенага ўрыўка, самабытныя, хоць, канечне ж, сустракаюцца і творы, якія ў запісах іншых фалькларыстаў маюць свае варыянты. Гэта тычыцца і такіх узораў вусна-паэтычнай творчасці, як (називаю іх па раздзелах у "Фальклоры ў запісах...") "Крывіцкія прыказкі і прымаўкі", "Прыказкі і прымаўкі, прыстасаваныя да свят", "Адметныя выразы і параўнанні, якія можна аднесці і да прымавак", "Загадкі".

...Нямала зрабіў на ніве фальклорнай дзейнасці і Яўстафій Тышкевіч. Найбольш вядомая яго праца — "Апісанне Барысаўскага павета". Аднак зноў жа — вядомая ў асноўным даследчыкам. А яны ж сапраўдная духоўная скарбніца, што дазваляе пазнаёміцца з жыццём гэтага рэгіёна Беларусі — бытам, звычаямі, рознымі абрадамі. У кнігу "Фальклор у запісах..." увайшлі раздзелы "Вясельныя абрады вясковага люду ў Мінскай губерні", "Абрады вясковага люду з-над Бярэзіны", "Прыказкі жыхароў з ваколіц Бярэзіны".

Пра кожны з іх можна гаварыць шмат, бо і гэтым разам адметны матэрыял у шырокі ўжытак уведзены ўпершыню. Але, каб упэўніцца, якія цікавыя творы, дзякуючы Я. Тышкевічу, не сцерліся з памяці, дастаткова прывесці колькі гістарычных прыказак, да асобных з якіх Я. Тышкевіч даў тлумачэнні. Не прамінуў гэта зрабіць і ў самым пачатку: "Простыя людзі, не прымаючы ніякага ўдзелу ў палітычным жыцці народа, гэтак жа мала захавалі і сваіх падзенняў з мінулага. Неўміручымі аказаліся толькі некалькі прыказак з лепшых часоў". А што да прыказак, дык яны самі гавораць за сябе. Для прыкладу: "Узяла погань моц". Прыказка гэта павінна была ўзнікнуць тады, калі ліцвіны панавалі над русінамі, якія ўжо прызнавалі Хрыста. Ужываецца для пацвярджэння той ісціны, што вераломныя людзі перамагаюць няхітрых, пра якіх у народзе гавораць: "Не былі там, гдзе Хрыста прадавалі". Ці такая: "Настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі". Альбо: "Нашы дзяды не знаці бяды, але ж унукі набраліся мукі".

А родны брат Яўстафія Тышкевіча Канстанцін Піевіч больш вядомы як аўтар манаграфіі "Вілія і яе берагі", што з'явілася вынікам яго краязнаўчай экспедыцыі па гэтай рацэ, дзеля ажыццяўлення чаго была спецыяльна пабудавана флатылія з пяці суднаў. Экспедыцыя абследавала 295 вёсак, мястэчкаў, гарадоў, якія размясціліся на берагах Віліі. Былі запісаны песенныя фальклорныя творы, што змешчаны ў "Фальклоры ў запісах..." у раздзелах "Прыпеўкі" і "Песні". Яны не былі К. Тышкевічам падзелены па жанрах, але ад гэтага, вядома, значнасць, вартасць іх не прымяншаецца.

Аднолькава цікавыя і прыпеўкі, і песні. Як гэтая прыпеўка:

**У наша суседа**
**Была ўчора бяседа:**
**Свіння ў дудкі іграла,**
**А курачка скакала,**
**А петушок прыпяваў**
**І ножачкай прыбіваў.**

Лёгка заўважыць: яна ў многім набліжаецца і да дзіцячага фальклору, прынамсі, да забаўлянак, небыліц.

А гэта адна з песень, пачутых К. Тышкевічам падчас экспедыцыі:

**На дубу зязюлька, на дубу,**
**Ехала Агатка да шлюбу,**
**Што табе, зязюлька, да таго,**
**Маю я татачку сваяго.**
**Благаслаўіць мацечка —**
**я сяду,**
**Пераедзіць дарожку —**
**паеду.**
**Адчыняць цэркаўку —**
**я ўвайду,**
**Пасцелюць ручнічок —**
**я стану.**
**Што станупь пытацца —**
**я скажу,**
**Шлюбуеш Агатка, — шлюбуй,**
**Цалуеш мілага — цалуй.**

Верыцца: том "Фальклор у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў" не заляжыцца на паліцах кнігарань. Не заляжаліся і папярэднія з серыі "Беларуская народная творчасць". Бо далучыцца да народных вытокаў, крыніц — гэта знайсці тое духоўнае апірышча, якога так нестае сёння.

Алесь **МАРЦІНОВІЧ.**

## ВЕРНІСАЖЫ

# ГОЛАС МОЛАДЗІ Ў ВЫЯЎЛЕНЧЫМ МАСТАЦТВЕ



Валянцін **БОРЗДЫ.**

Мастак Валянцін Борзды вызначаўся сваёй апантанасцю яшчэ ў студэнцкія гады. Пра гэта сведчыць ягоная творчая біяграфія, адлік якой пачынаецца з 1993 года, калі ён упершыню паказаў свае працы на калектыўнай выставе "Памяці Ларысы Засімовіч" у Віцебску. Плённым быў для Валянціна год 1995-ты. Тады ён стаў лаўрэатам "Белага Арт-Фестывалю" ў Мінску, прыняў удзел у выставе "Роздум на лініі далягляду" ў Заслаўскім гістарычным музеі, а таксама ў выставе студэнцкіх прац Беларускай акадэміі мастацтваў у Мінскім палацы мастацтва. Пасля паспяховага заканчэння акадэміі, дзе Валянцін Борзды прайшоў добрую школу акадэмічнага рэалізму, ён удзельнічае ў двух пленэрах — "Размова з камянямі" (1996), "Памяці А. Анікейчыка" (1997) — і выставе суполкі "Пагоня" "Адраджэньне-97". Фактычна праз год ён становіцца сябрам Беларускага саюза мастакоў і ладзіць сваю першую персанальную выставу. Яе адкрыццё адбылося напрыканцы 1997 года, 23 снежня, у галерэі сучаснага мастацтва, якая знаходзіцца ў будынку тэатра "Вольная сцэна". Упершыню галерэя паказвала ў сваіх сценах мастацтва скульптара.

Валянцін Борзды ў сваіх творчых пошуках ідзе ад эстэтыкі жаночай фігуры. На выставе ён паказвае ў асноўным торс і ногі. Ягонай скульптуры характэрна ўмоўнасць і гіпертрафіраванасць форм. Мастак ужывае розныя матэрыялы: дрэва, жалеза, бронзу, скуру. Уражвае ўдалае спалучэнне гэтых матэрыялаў. Цёплае, адшліфаванае рукой скульптара дрэва, з якога зроблены торс, дзіўна гарманіруе з жалезам, у якое ён закаваны. З халоднага цяжкага жалеза скульптар робіць тое, што на самай справе лёгкае, цёплае, пяшчотнае — жаночую бялізну, якую ўпрыгожвае рознымі дэталямі, дробязямі. І гэтыя кантрастныя матэрыялы так арганічна ўжываюцца паміж сабою, што выклікаюць адно — захапленне.

Асобным прадметам даследавання мастака, як ён сам прызнаўся, з'яўляюцца жаночыя ногі. У экспазіцыі можна пабачыць ногі, увасобленыя ў дрэве, партрэт нагі ў бронзе, ногі, як два абеліскі, дзе спалучаецца дрэва, метал і скура. Стылізаваныя ногі Валянціна Борздага розныя па памерах. Самыя доўгія, вартыя Кнігі рэкордаў Гінеса, размяшчаліся пры ўваходзе ў будынак, на яго прыступках. Гэта шасціметровыя жаночыя ногі, выкананыя ў кардоне. На думку мастацтвазнаўцы Іны Рэўт, якая спрычынілася да творчасці мастака, "скульптуры Валянціна Борздага вабяць да сябе, заваражваюць, але насцярожана трымаюць на адлегласці. Іншыя, больш дынамічныя па форме, — пачуццёвыя, вытанчана-пластычныя, прывабнатомныя. Творца пранікае ў сутнасць, дабіраецца да пачаткаў, шукае дасканаласці. Мастак лічыць, што фігуратыўнасць — абавязковая якасць скульптуры. Калі ж яе няма, дык гэта ўжо дызайн. Найцікавейшае ж — жаночая фігура. І ў згодзе з пластычнымі мэтамі скульптар трансфармуе яе, змагаючыся, адыходзіцца з ёю як з матэрыялам". Старэйшы калега Валянціна Борздага скульптар Аляксандр Шатэрнік адзначыў еўрапейскі ўзровень твораў маладога мастака.

Персанальная выстава скульптара Валянціна Борздага сведчыць, што голас моладзі ў сучасным выяўленчым мастацтве набірае моц і адметнае гучанне.

Ірына **ЛЯКСЕЕВА.**



# «ТРЫУМФАЛЬНЫЯ» КАЛЯДЫ

Адна з прэстыжных расійскіх незалежных прэмій "Трыумф" уручана на Каляды беларускай пісьменніцы. Гэтая прэмія прысуджаецца толькі тым асобам, чыя творчая дзейнасць, чый талент здабылі ім трывалую папулярнасць і сапраўдную славу. Сёлета гэтую прэмію ў галіне літаратуры атрымала Святлана Алексіевіч. Вядомы рускі крытык Зоя Багуслаўская, якая ўручала лаўрэатам узнагароды, слушна заўважыла, што творчасць Святланы Алексіевіч узбагаціла не толькі беларускую, але і ўсю сусветную літаратуру. Творы пісьменніцы шырока перакладаюцца і выдаюцца ва ўсім свеце. Апошнім часам шырокі розгалас набыла яе кніга "Чарнобыльская малітва", у якой аналізуюцца падзеі і вынікі чарнобыльскай аварыі, ядзернага апакаліпсісу XX стагоддзя. Наколькі прэстыжнай з'яўляецца гэтая незалежная прэмія, сведчаць хаця б імёны яе лаўрэатаў. Сёлета сярод іх, акрамя Святланы Алексіевіч, такія асобы, як мастацкі кіраўнік знакамітага Расійскага Дзяржаўнага ансамбля песні і танца Ігар Маісееў і легендарны рок-музыкант Барыс Грабеншчыкоў, а да Святланы Алексіевіч прэмію ў галіне літаратуры атрымала Бэла Ахмадуліна.



Арыгінальныя вырабы з саломкі і лазы віцебскай фабрыкі мастацкіх вырабаў "Купава" карыстаюцца попытам не толькі ў жыхароў рэспублікі, але і за яе межамі. Не знаходзяць сабе роўных і трыкатажныя вырабы, што выпускаюцца тут малымі серыямі.

НА ЗДЫМКУ: вырабы з саломкі і лазы.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

# ЖЫВІЦЕ, МІШАНЬКІ!

Не так даўно па маскоўскім радыё прагучала інфармацыя, што на Камчатцы рускі мядзведзь з'еў японскага кінааператара. У Беларусі нападу мядзведзяў на людзей за апошнія дзесяцігоддзі не назіралася. А сустрэчы з імі надараюцца, і не так рэдка.

Гэтага цудоўнага звера людзі паважаюць. Ён услаўлены ў легендах і паданнях, у песнях, у літаратуры. І заўсёды падаецца як дабрадушны, разумны. Згадаем хаця б казку "Пра камара камаровіча...", "Тры мядзведзі".

У Беларусі ў ранейшыя часы вадзілася шмат бурых мядзведзяў. Замежныя падарожнікі расказвалі пра іх у сваіх нататках, дзённіках. Паступова колькасць іх зменшылася. У энцыклапедыі адзначана, што яны жывуць у Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях. Аднак трапляліся і ў іншых мясцінах. У прыватнасці, адзін, нежывы, быў знойдзены ў Лепельскім раёне Гомельскай вобласці. Высветлілі, што ён залез на дрэва, зваліўся і разбіўся.

Асноўным жа месцам жыхарства мядзведзяў заставаўся Бярэзінскі запаведнік. У ім бавіў сваё жыццё самы вялікі з іх — Пушчык, ён стаў вядомым: здымаўся ў кіно, на здымкі ездзіў у Прагу. А пасля смерці Пушчыка з яго зрабілі чучала для запаведнікавага музея.

Здараліся нечаканыя сустрэчы з мядзведзямі. Адзін з іх выйшаў да жанчын, якія збіралі маліны. Пастаяў, паназіраў цікаўна, нібы хацеў спытаць: "А чаму гэта вы без дазволу рвяце мае ягады?" І пайшоў так жа ціха, як і паявіўся. А жанчыны моцна напалохаліся.

Другі звер быў агрэсіўным. Ён напаў на карову. Можна ўявіць, як лясны волат даўжынёй да двух з паловай метраў і вагой да 750 кілаграмаў наваліўся на хатнюю жывёліну. Бараўцьба, можна не сумнявацца, была кароткай. Ад каровы засталіся рожкі ды ножкі.

У Бярэзінскім раёне мядзведзь позна вечарам залез у агарод на ўскраіне вёскі. Яму захацелася мёду. Узяў вулей ды панёс. Але тут выйшаў з хаты гаспадар: вярнуўшыся з рэйса, ён паставіў грузавую машыну ў двары. І яна вельмі прыдалася. Уключыў фары. Мядзведзь дужа спужаўся і кінуўся ўцякаць.

Яшчэ гадоў пятнаццаць таму лічылася, што ў Беларусі, у асноўным у Бярэзінскім запаведніку, жыве, на думку адных спецыялістаў, пяцьдзесят, а другіх — усяго трыццаць мядзведзяў. Паявілася пагроза поўнага знікнення папуляцыі.

А неяк давялося мне наведаць Віцебскі абласны камітэт па выкарыстанні прыродных рэсурсаў і ахове прыроды. Загаварылі і пра мядзведзяў.

— Ды не, — запярэчылі мне. — Цяпер іх у нашых лясах прыкладна 120.

І паказалі на карце, расказалі пра месцы іх жыхарства. Яны ў асноўным на ўсходзе і поўначы вобласці. Мяне парадавала, што на агульным фоне збяднення жывёльнага свету колькасць мядзведзяў павялічылася. Няхай больш будзе гэтых звяроў. Яны — упрыгажэнне нашай зямлі.

Мікалай ДУБРОВІН.

## У газету «Голас Радзімы»



Звяртаемся да нашых суайчыннікаў за рубяжом — да тых, хто любіць жывёлін і каму неабыякавы іх лёс у нас, у Беларусі. Нас, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, вельмі цікавіць любая інфармацыя, што тычыцца жывёлін, якія жывуць у гарадах. Як ва ўмовах вялікіх гарадоў стварыць ім і людзям, што побач з імі, нармальнае і камфортнае жыццё? Ці ёсць законы, якія абараняюць правы жывёлін, ці маюцца прытулкі для іх?

Будзем удзячныя ўсім, хто адгукнецца на наша пісьмо.

З павагай і навагоднім прывітаннем

члены таварыства абароны жывёл "Каштанка": Бычкова, Голад, Серабракова, Рубінчык, Ціманюк, Анашчанка і інш.

Наш адрас: **Беларусь, 220053, Мінск, Даўгінаўскі тракт, 23, тэл. 237-37-43. Серабраковай Людміле Аляксандраўне.**

# КАЛЯДНЫ ПАДАРУНАК З ЧЫКАГА

*Яшчэ ў 1993 годзе ў "Голасе Радзімы" (28 кастрычніка) была надрукавана песня Міхаіла Клейнэра з Чыкага (штат Іллінойс). Нашае супрацоўніцтва з кампазітарам не затухла. І вось я маю новы падарунак з Новага Свету. За гэты час мой верш "Два промні" быў перакладзены на англійскую мову Дагмар Топінка-Волкат з горада Калумбус (штат Агаё). Таму і прапаную "Голасу Радзімы" прыклад траістага супрацоўніцтва.*

Сяргей ПАНІЗЬНІК.

## ДВА ПРОМНІ

Словы Сяргея ПАНІЗЬНІКА (Мінск) — Музыка Міхаіла КЛЕЙНЭРА (Чыкага)




Што ёсць радней на гэтым свеце!
Зацалаваная шчака!
Смяюцца ласкавыя дзеці —
мае сыночак і дачка.

Я халады свае не помню,
пякучы забываю крок.
Працяг жыцця — двухкрылы промнік —
мае дачушка і сынок.

Вы падымаецеся ў вырай,
вы — два вытокі з ручайка.
Жывіце доўга, светла, шчыра,
мае сыночак і дачка.

Пачнеце новае вы веце,
гадоў разгоніце чаўнок...
Што ёсць радней на гэтым свеце!
Мае дачушка і сынок.

## THE TWO RAYS

What is there for me on this land!
The cheek all covered with kisses!
And sweet laughing children —
my son and daughter.

I don't think of the cold days,
I forget about the desert road.
These two rays like two wings make my life longer —
they are my daughter and my son.

You are like birds going to the south,
you are like two rivers.
I wish you long, bright and wide life,
my dear son and daughter.

If you give life to new branches of the tree,
the weaving of fabric of years would go faster...
What is there for me on this land!
My dear daughter and son.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, зверстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 60.
Падпісана да друку 19.1.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.